*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 30 мая 1986 г. № 22 (3328) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Сваім майстэрствам радуе фальклорны ансамбль «Жалейка» з Гомеля.




## З ІМГНЕННЯЎ САТКАНАЯ РАДАСЦЬ

### У горадзе-героі Мінску прайшло мастацка-спартыўнае свята

Падрыхтоўка да яго пачалася яшчэ ў верасні мінулага года, калі гарком партыі на адным са сваіх пленумаў разгледзеў комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на выкананне пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнні выкарыстання клубных устаноў і спартыўных збудаванняў». Тады і было вырашана правесці ў рамках II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, агульнагарадское мастацка-спартыўнае свята. У новы этап падрыхтоўка ўступіла некалькі месяцаў назад, калі на старонках газеты «Вячэрні Мінск» была ўведзена спецыяльная рубрыка «Якім быць святу»? У зацікаўленай гаворцы прынялі ўдзел дзесяткі мінчан, найбольш цікавыя прапановы якіх трапілі ў друк. Рабочыя і студэнты, пісьменнікі і мастакі, артысты — усе былі аднадушныя ў тым, што такое свята павінна быць непадобным на іншыя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў сувязі са знамянальнымі датамі. Агульнагарадское свята — гэта значыць свята кожнага і кожны павінен у гэты дзень адшукаць нешта для сваёй душы.

Прапановы былі ўлічаны, бюро гаркома партыі прыняло адпаведную пастанову, даўшы святу права на жыццё. І вось у мінулую суботу яно «выйшла» на вуліцы і плошчы старадаўняга і вечна маладога Мінска — мастацка-спартыўнае свята «Мінск-86». Галоўны рэжысёр М. Дудчанка і галоўны мастак В. Семянько, а таксама рэжысёры і мастакі-пастаноўшчыкі, якія ўвайшлі ў рабочыя групы па правядзенні гэтага масавага мерапрыемства, паклапаціліся, каб увесь горадператварыўся ў маляўнічае, непаўторнае відовішча.

10 гадзін 30 мінут. Ад плошчы Перамогі, ад Вечнага агню бярэ свой старт спартыўная эстафета. Эскорт аўтамабіляў узначальвае ганаровы грамадзянін Мінска, шматразовы алімпійскі чэмпіён і чэмпіён свету А. Мядзведзь. Машыны рухаюцца па Ленінскім праспекце, зварочваюць на вуліцу Леніна. Ля Палаца спорту ўжо

(Заканчэнне на стар. 2—3).



Адзін з элементаў афармлення плошчы ля Палаца спорту.

# СУСТРЭЧЫ НА ЭСТОНСКАЙ ЗЯМЛІ

Сёння ў Талін штодзённа прыязджаюць тысячы людзей, а за год, як сцвярджае статыстыка, маленькая Эстонія прымае каля двух мільёнаў гасцей. Сустракае і праводзіць іх гасцінна, з адкрытым сэрцам, як надзейных і добрых сяброў.

Вось і пасланцоў Беларусі чакаюць тут з радасцю і нецярпеннем. Яно відаць і ў чэргах за білетамі на канцэрты нашых ансамбляў, і ў патрабавальных званках з прадпрыемстваў і калгасаў у эстонскі і беларускі штабы: «Заплануйце творчую сустрэчу ў нашым калектыве!» І ў той шчырасці, з якой гаворацца прывычныя, здавалася б, словы: «Тэрэ тулемаст! Сардэчна запрашаем!»

Словы гэтыя асабліва сардэчна гучалі 27 мая на Талінскім вакзале, куды прыбыў поезд з вялікай групай удзельнікаў Дзён.

28 мая ў Талін для ўдзелу ў Днях літаратуры і мастацтва прыбыла афіцыйная дэлегацыя Беларускай ССР, якую ўзначальвае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. У яе саставе—намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ І. І. Антановіч, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, старшыня Дзяржкіно БССР У. В. Мацвееў, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Н. С. Гілевіч, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР І. М. Лучанок, першы сакратар праўлення Саюза мастакоў БССР У. Ц. Гардзеенка, старшыня праўлення Беларускага тэатральнага таварыства М. М. Яроменка, адказны сакратар Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны Герой Савецкага Саюза А. І. Барданаў, старшыня калгаса імя Горкага Пінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы В. М. Гарошка, галоўны балетмайстар Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, народны артыст СССР В. М. Елізар'еў, ткачыха Светлагорскага завода штучнага валакна, Герой Сацыялістычнай Працы З. П. Кіжнерава.

У аэрапорце гасцей сардэчна вітаў сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі Р. Э. Рыстлан.

У Доме друку ў той жа дзень адбылася прэс-канферэнцыя для работнікаў газет, радыё і тэлебачання.

У сярэдневяковым асабняку, у залах музея прыкладнога мастацтва адкрылася экспазіцыя работ беларускіх майстроў, дзе прадстаўлены мастацкае шкло, габелены, вырабы з саломкі.

Па матэрыялах БЕЛТА.

## АФІША ГАСЦЕЙ

31 мая ў Мінску пачынаюцца гастролі Кіеўскага дзяржаўнага тэатра аперэты. Нашы госці прапануюць гледачам дзесяць спектакляў. Пераважна гэта пастаноўкі знакамітай аперэтачнай класікі: «Лятучая мыш» і «Цыганскі барон» І. Штрауса, «Марыца» і «Сільва» І. Кальмана, «Вясёлая ўдава» Ф. Легара і інш. Ёсць у афішы творы, невядомыя мінчанам: «На досвітку» А. Сандлера, «Страсці святога Мікаэля» М. Самойлава. Гастролі адкрыюцца папулярнай-аперэтай К. Лістова «Севастопальскі вальс».

С. ВЕТКА.

## АДРАСАВАНА ШКОЛЬНІКАМ

У канцэртнай зале полацкага Сафійскага сабора завяршыўся цыкл лекцый-канцэртаў «Дзіцячыя і юнацкія гады любімых выканаўцаў і кампазітараў», выканаўцамі якіх былі вучні Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Белдзяржкансерваторыі імя А. В. Луначарскага.

Ініцыятар правядзення мерапрыемстваў па музычна-эстэтычным выхаванні падрастаючага пакалення—старшыня секцыі музыказнаўства Белдзяржфілармоніі А. Парэцкі.

Сёмая, апошняя сустрэча прысвячалася творчасці беларускіх кампазітараў. У госці да школьнікаў прыехаў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Г. Вагнер.

Н. ЗАХАРАВА.

## Выступілі ў Вільнюсе

У памяшканні Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Літоўскай ССР з поспехам прайшлі гастролі тэатра пантамімы «Рух» Белдзяржфілармоніі. Госці паказалі спектаклі «Люстэрка», «Праметэй», «Сымон-музыка», «Пokліч».

У. СТРУМІЛА.

## ГАНАРОВАЯ ГРАМАТА—КНІГАРНІ

Вялікую ўвагу ўдзяляе «Кнігарня пісьменніка» прапагандзе і распаўсюджванню кніг беларускіх літаратараў. Тут часта арганізуюцца чытацкія канферэнцыі і дыспуты па лепшых кнігах, праводзяцца сустрэчы, на якіх выступаюць аўтары.

Сакратарыят СП БССР нядаўна прыняў рашэнне за актыўную прапаганду мастацкай літаратуры сярод працоўных узнагародзіць «Кнігарню пісьменніка» Ганаровай граматай Саюза пісьменнікаў БССР.

На чарговай нарадзе работнікаў кніжнага гандлю Мінска, якая адбылася ў рэспубліканскім калектары, гэтую грамату ўручыў дырэктару магазіна Я. Бярэйшык Мікола Гамолка. Ад імя праўлення СП БССР ён пажадаў новых поспехаў калектыву кнігарні.

М. ІВАНЕНКА.

## ПЕРШАЯ З СЕРЫІ ВЫСТАВАК

Першамайскі раённы каардынацыйны савет ідэйна-выхаваўчай работы з насельніцтвам па месцы жыхарства і раённы камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў ІІ Усесаюзнага фестывалю самадзейнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, у кінатэатры «Партызан» праводзяць серыю выставак самадзейных мастакоў, якія працуюць на прадпрыемствах і ва ўстановах Першамайскага раёна г. Мінска.

Серыю адкрыла выстаўка самадзейнага мастака, электрагазазваршчыка РСУ № 49 «Мінскбуда» Уладлена Гутнікава. У экспазіцыі дваццаць лепшых карцін аўтара, у асноўным пейзажы роднага краю. Пра поспех выстаўкі сведчаць першыя запісы ў кнізе водгукаў.

В. АСТРЫНСКІ.

# З ІМГНЕННЯЎ САТКАНАЯ РАДАСЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

...сабраліся дзесяткі тысяч мінчан і гасцей сталіцы рэспублікі. Ля мікрафона Гаспадыня свята — неўміручая Паўлінка. Яна запрашае ўсіх на ўрачыстасць.

Эскорт прыбывае да Палаца. Прадстаўнікі кожнага раёна горада-героя, якія знаходзяцца ў ім, па чарзе ўручаюць рапарты працоўных спраў старшыні Мінскага гарвыканкома У. Міхасёву, які праз некалькі мінут адкрывае свята. Чуюцца залпы святочнага феерверка. Сотні дзіцячых галасоў спяваюць песню І. Дунаеўскага «Ляціце, галубы». І адразу ж дзесяткі птушак — сімвал міру, шчасця — узнімаюцца ў блакіт неба.

Свята пачалося. Новыя акорды яго загучалі на плошчы ля Палаца, якая неўзабаве ператварылася ў «Мінскі кірмаш». Мелодыя заліхвацкай «Лявоніхі» паклікала ўсіх — і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, і студэнтаў Мінскага інстытута культуры, апранутых у касцюмы скамарохаў, і найбольш смелых гледачоў — у агульныя скокі. На нейкі момант уся плошча стала вялікай танцавальнай залай.

Адгучала «Лявоніха» і ўсіх паклікалі да сябе чатыры імправізаваныя пляцоўкі-эстрады. Тры размясціліся тут жа, ля Палаца, а чацвёртая — ля кінатэатра «Масква». На кожнай з іх адбываюцца выступленні прафесійных і самадзейных калектываў. Вабіць да сябе рознакалёрнымі фарбамі, шматгалоссем і «Кірмаш рамёстваў». Ён размясціўся ўздоўж набярэжнай Свіслачы ад Палаца спорту да абеліска, узведзенага ў гонар прысваення Мінску ганаровага звання горада-героя. Кірмаш як кірмаш. З жартамі, песнямі, танцамі. У святочным натоўпе лёгка пазнаць Паўлінку, Сымона-музыку, Несцерку, Лявона, Лявоніху... Яны запрашаюць пазнаёміцца з выстаўкамі работ самадзейных мастакоў і народных умельцаў.

...Сведкам многіх урачыстасцей быў і гарадскі сквер імя Янкі Купалы. У розны час у ім праходзілі шматлікія літаратурна-мастацкія мерапрыемствы, наладжваліся конкурсы дзіцячага малюнка на асфальце. Набярэжная Свіслачы неаднаразова ператваралася ў своеасаблівую экспазіцыйную залу. Ля помніка народнаму песняру колькі гадоў праходзіць і традыцыйнае свята «Палымянае слова паэта». Таму не выпадкова, што ў гэты дзень купалаўскі сквер стаў «Паркам мастацтваў».

Яшчэ віталі мінчане і госці сталіцы ля Палаца спорту ўдзельнікаў спартыўнай эстафеты, а тут, у засені дрэў, ужо гучалі народныя песні, выконваліся танцы, якія, здавалася, раскрывалі часцінку душы самога народа, перадаючы чысціню яго і неўміручасць. «Ой, рана на Івана» — так называлася вакальна-харэаграфічная кампазіцыя, з якой пазнаёміў прысутных ансамбль песні і танца Маладзечанскага гарадскога Дома культуры.

У гэты ж час на эстрадзе ля набярэжнай гаспадарылі Вася-Вясёлкін, Буслік, Кот-мурлыка, Вера-вавёрачка і іншыя любімыя героі дзяцей. Хлопчыкі і дзяўчынкі атрымалі яшчэ адну магчымасць далучыцца да свету казкі, дабра. Асаблівай радасцю свяціліся дзіцячыя тварыкі, калі артысты Дзяржаўнага тэатра лялек БССР паказвалі адзін са сваіх лепшых спектакляў — «Чырвоная Шапачка».

Ажыўлена ля кніжных кіёскаў. Многія магазіны, у тым ліку «Кнігарня пісьменніка», перанеслі гандаль у «Парк мастацтваў». Багаты выбар кніг, асабліва паэтычных зборнікаў. І найбольшай папулярнасцю карыстаюцца кнігі тых, хто вось-вось выступіць на пляцоўцы, абсталяванай ля падножжа помніка Янку Купалу.

Ля мікрафона — першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Н. Гілевіч:

А мне ўспамінаецца сорак чацвёрты:  
Руіны, пажарышчы, попел сівы.  
Дашчэнту разбураны ўвесь, ды не мёртвы!  
Агнём зруйнаваны датла — і жывы!

Вяртаючыся ў пасляваенныя гады, Н. Гілевіч прыгадвае, як мінчане адбудоўвалі родны горад, каб зрабіць яго яшчэ прыгажэйшым. У аднаўленні, калі можна так сказаць, прымала ўдзел і літаратура. Творы Якуба Коласа і Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова і Івана Мележа, Петруся Броўкі і Пятра Глебкі і іншых выдатных майстроў служылі гэтай высакароднай мэце.

Не пазнаць родны Мінск сёння, заўважае прамоўца. Ён стаў такім прыгожым, дзякуючы кожнаму з нас. І ўсе мы павінны імкнуцца, каб любімы горад — горад-стваральнік, горад-працаўнік — заўсёды быў гэткім радасным і святочным.

Гучыць паэзія. Па-грамадзянску актыўная, страсная, па-чалавечы даверлівая і шчодрая, па-партыйнаму мужная і адкрытая. Гарачымі апладысментамі сустракаюць аматары лі-

Малюнак на памяць.

Аўтограф Максіма Танка.

Юныя барабаншчыцы на праспекце Машэрава.

Вернісаж на набярэжнай Свіслачы.

Стаў танцавальнай залай ...праспект.

## 1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей



**Квецень.**

Фотаэцюд Ул. КРУКА.

таратуры сваіх любімых пісьменнікаў — Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай прэміі Максіма Танка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа Максіма Лужаніна — прадстаўнікоў старэйшага пакалення, тых, хто таксама прымаў удзел у аднаўленні роднага горада і хто прысвяціў яму нямала шчырых, прачулых радкоў.

Літаратурную эстафету прымаюць Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, А. Грачанікаў, В. Зуёнак... Гарачымі апладысментамі сустракаюць прысутныя маладзейшых — Я. Янішчыц, У. Някляева, В. Аколаву, А. Канапельку, А. Пісьмянкова.

Свята дорыць яшчэ адну радасную літаратурную сустрэчу



*Гэта так проста...*

— прэм'еру новай паэтычнай кнігі М. Стральцова «Мой свеце ясны», што нядаўна выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

На прэм'еру прыйшлі Р. Барадулін, загадчык рэдакцыі мастацкага афармлення выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Жыжэнка, рэдактар зборніка Л. Дранько-Майсюк. Яны прыхільна гавораць пра чарговае выступленне М. Стральцова ў галіне паэзіі, адзначаюць плённасць аўтарскіх пошукаў, значнасць набыткаў. Адначасова кніга «Мой свеце ясны» — узор таго, як трэба афармляць паэтычныя зборнікі. Мастаку А. Шэвераву ўдалося дакладна спасцігнуць сутнасць аўтарскай задумы. Кніга, як кажуць, не толькі чытаецца, але і глядзіцца. З цікавасцю слухаюць аматары літаратуры самога М. Стральцова.

У дзіцячым жа парку імя М. Горкага праходзіць тэатралізаванае прадстаўленне «Дарогі творчасці». Дзеці атрымалі магчымасць, адправіўшыся ад «Чарадзейнага млына», наведаць некалькі станцый, кожная з якіх — крок у таямнічае і нязведанае, дарога да пазнання свету — «Маленства», «Заалагічная», «Тэхнічная», «Спартыўная», «Мастацкая», «Карнавальная», «Дружба». І, вядома ж, як і на іншых пляцоўках, тут выступаюць самадзейныя артысты.

...20 гадзін 00 мінут. Свята перамяшчаецца на стадыён «Дынама», дзе адбываецца тэатралізаванае мастацка-спартыўнае відовішча з удзелам зводнага хору — каля пяці тысяч чалавек, калектываў фізкультуры, шэрагу вакальна-інструментальных ансамбляў. Называюцца пераможцы агульнагарадскога конкурсу на лепшы двор, дом, участак, спартыўную пляцоўку, якім уручаюцца спецыяльныя прызы...

Да позняга вечара на вуліцах і плошчах горада выступаюць духавыя аркестры і аркестры народных інструментаў, а ў 23 гадзіны пачынаецца святочны феерверк.

Пачатак добрай справе пакладзены. Добрай не толькі ў тым сэнсе, што дзесяткі тысяч людзей змаглі культурна адпачыць. Падрыхтоўка да мастацка-спартыўнага свята актывізавала грамадскую дзейнасць многіх, садзейнічала далучэнню людзей да работы па добраўпарадкаванні роднага горада. Было пасаджана 25 тысяч дрэў, тысячы гараджан працавалі ў выхадныя дні на рэканструкцыі Траецкага прадмесця, рабочыя прамысловых прадпрыемстваў дапамаглі аформіць парк імя М. Горкага.

У далейшым будуць улічаны ўрокі сёлетняга свята, нешта ўдакладніцца, скарэкціруецца. Магчыма, перанясецца дзень яго правядзення. У адным не можа быць сумнення — такое свята патрэбна! Яно мае права на працяг.

Уладзімір КРУК (фота),
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».

**ПІСЬМЕННІК І ПЯЦІГОДКА**

**XXVII з'езд КПСС намеціў канкрэтныя задачы па павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. У сістэме мер па ажыццяўленні Харчовай праграмы прадугледжваецца і добраўпарадкаванне забалочаных зямель.**

**Нядаўна *пісьменніцкія* дарогі *прывялі* Васіля Макарэвіча на Палессе, а калі больш дакладна, у Калінкавіцкі раён, дзе многія калгасы і саўгасы гаспадараць на меліяраваных землях.**

**Былі сустрэчы з хлебаробамі, кіраўнікамі гаспадарак, партыйнымі і савецкімі работнікамі. Адну з такіх сустрэч — расказ старшыні калгаса «Камунар» В. Ціхіні — В. Макарэвіч прапануе ўвазе чытачоў «ЛіМа».**




# НАДЗЕЯ і ВЕРА

— ТАК, ГЭТА Я, Васіль Іванавіч Ціхіня. Працую старшынёй калгаса «Камунар». Колькі год? А не так ужо і многа. Гады можна пералічыць на пальцах адной рукі. А каля зямлі— змалку я. Зрэшты, яшчэ ў школе сказаў сабе, як адсек: тваё месца, дарагі Васіль, каля зямлі! Не кінуся я шукаць прывідную жар-птушку за трыдзевяць зямель. Надзейней трымацца роднай зямелькі, каля якой шчыравалі бацькі, дзяды і прадзеды. Занадта ў цябе, браце, гаварыў я сам сабе, празаічная душа. Заземленая яна. Калі, можа, не прыземленая, то ўжо заземленая! От і будзем лавіць тую жар-птушку на роднай зямлі. Праўда, калі я сказаў бацьку, што нікуды не паеду, ён, як мне здавалася, неяк здзіўлена паглядзеў на мяне, нібы пакрыўдзіўся, што я не такі, як мае аднагодкі. А потым узрадаваўся, сказаў, што можа, гэтак яно і лепей. І вось паступіў я ў Мар'інагорскі тэхнікум вучыцца на агранома. Скончыўшы яго, стаў працаваць начальнікам участка на эксперыментальнай базе «Ліпава». Малады быў, сілы меліся, насіўся па ўчастку ад цямна да цямна. Сам не меў спакою і падначаленым не даваў яго. Калі трэба было, станавіўся на рабочае месца і з рыдлёўкай, і з віламі. Вельмі па душы гэта было дырэктару эксперыментальнай базы Івану Антонавічу Ліхадзіеўскаму. Хваліў мяне, у прыклад іншым ставіў. Хоць у нас была немалая розніца ў гадах, мы пасябравалі, ды так моцна, што калі яго пераводзілі дырэктарам у адзін з саўгасаў Ельскага раёна, Ліхадзіеўскі нечакана для мяне бухнуў: «Давай, Васіль Іванавіч Чапаеў... цьфу ты... Ціхіня, — ён заўсёды ў добрым настроі называў мяне Чапаевым, — рыхтуй лыжы і выпраўляйся са мной. Зжыліся, спрацаваліся мы з табой. Табе я заўсёды верыў, на цябе спадзяваўся. На новым месцы з табой удвух мы не толькі гару Эверэст — Гімалаі паверанем! Так што згаджайся!»

Я згадзіўся. Хоць і не імкнуўся шукаць жар-птушкі, але ўсё-такі і мяне пацягнула ў свет. На новым месцы стаў, можна сказаць, правай рукой у Ліхадзіеўскага. Спачатку ўсё ішло гладка, лепш і не трэба было чакаць. Гаспадарка, што нагадвала сабой воз, які загруз па самыя восі, скранулася, пайшла ўгору. Усё ладзілася, станавілася і клалася на сваё месца. Ды штосьці незразумелае адбылося з самім Ліхадзіеўскім. Я і цяпер не магу ўцяміць, ад чаго так нечакана і раптоўна змяніўся чалавек? Ну, нібы падмянілі яго. З твару, з выгляду як быццам той самы Ліхадзіеўскі, а ў паводзінах поўная процілегласць ранейшаму. У Ліхадзіеўскага зусім сапсаваліся адносіны са спецыялістамі. Не маглі яны знайсці з ім агульнае мовы.

Кінуў я сваю пасаду, былога дружбака і вярнуўся ў свой раён. Канечне, пагарачыўся, кінуў самавольна. За гэта па галаве не пагладзілі. Але не адмахнуліся ад мяне, як, бывае, адмахваюцца ад непатрэбнага чалавека. Прытуліў мяне старшыня калгаса імя Калініна Яфім Фёдаравіч Цімашэнка, добрай душы чалавек, выдатны спецыяліст і знаўца сваёй справы. Узяў мяне галоўным аграномам. Тут пачаў адыходзіць душой, добрых, па-сапраўднаму шчырых сяброў займеў, завочна скончыў сельскагаспадарчы інстытут.

А праз які час пачалі мяне сватаць, каб я пайшоў старшынёй у суседні калгас «Камунар». Не пашанцавала яму на кіраўнікоў. То прайдзісвет, то няўмека сядалі ў старшынёўскае крэсла. Ведаў я гэту гаспадарку не горш, чым тую, дзе працаваў разам з Цімашэнкам. Мы былі суседзямі. Усё, што рабілася ў суседнім калгасе, было як на далоні. Ведаў я слабыя і моцныя бакі, яго плюсы і мінусы. Добра і адначасова дрэнна было тое, што пад бокам у «Камунара» знаходзіўся горад. Чаму добра — зразумела кожнаму, а чаму дрэнна — паспрабую растлумачыць. Калі побач за які кіламетр-другі маецца завод альбо іншае прадпрыемства — хто хоча корпацца каля зямлі? Лічы, амаль увесь час у полі, у спёку і маразы, у дождж і завіруху? Вось таму, напрыклад, з вёскі Ублацці амаль усе мужчыны падаліся ў горад. Не, яны не пераехалі ў Калінкавічы. Не думаюць пераязджаць і зараз. Усе па-ранейшаму жывуць у вёсцы. Але і не глядзяць у бок калгаса. І што ты з імі зробіш?

З вёскай Блажкі — тое самае. За чатыры вярсты ад іх працуе Гарадчыцкі льнозавод. Там, вядома, праца пад дахам, зарплата гарантаваная. А таму людзі ўвесь час і глядзяць у бок ільнозавода. Чакаюць зручнага моманту, каб уплішчыцца на рабочае месца. Прадпрыемства, якое б яно ні было, гэта табе не калгас — маю на ўвазе слабую гаспадарку.

Трэба сказаць, вагаўся я, перш чым даць згоду заняць старшынёўскую пасаду. Нялёгкі гэта быў воз. Упрагчыся то ўпражэшся, а вось ці скранеш яго з месца, ці пацягнеш? Але мае ваганні перапыніў Яфім Фёдаравіч. «Чаму ўпарцішся?! — накінуўся ён на мяне. — Ты адмовішся, другі адмовіцца, і што выйдзе з гэтага? Зноў у крэсла старшыні ўскочыць нейкі прайдзісвет і хапуга. Калі што якое... Свае ж людзі. Будзем жа побач».

У першыя гады старшынёўства, як на тое ліха, усё лета дажджы. Землі ў саўгасе, вядома, асушаныя, але з аднабаковым рэгуляваннем. Большая палавіна з іх меліяравана адкрытым спосабам. І выпасы, і землі, на якіх лапушылася трава і бульба, раслі збожжавыя, настолькі былі напоены вільгаццю, што не маглі ўсмактаць усю ваду. Яна стаяла на паверхні. А сенакос не чакаў. Трэба было касіць траву, убіраць яе. Не нарыхтуеш на зіму кармоў, лічы прапала калгасная жывёла. Трэба было нешта рабіць! Амаль паўтысячы гектараў пожні скасілі і заклалі на сілас. Іншага выхаду не было і не прадбачылася. Людзі не глядзелі і не лічыліся ні з чым. Дождж лупіць, а яны, праклінаючы гнілое надвор'е, робяць сваё: падносяць мокрую траву, грузяць на прычэпы і адвозяць да сіласных ям. А распагодзіцца крыху, — за косы і на пожні! Як кажуць, і ўхапілі сена. Жывёла зімой не засталася без корму. А гэта — галоўнае!

Нешта падобнае было і з бульбай. Поле настолькі размякла, набрыняла вадой, што з камбайнам на яго і не думай патыкацца. З бульбакапалкай таксама не дужа разгонішся. Памагалі конь і плужок. Так і выкапалі ўсю бульбу.

Думаецца, надвор'е на гэтым адчапілася ад нас, пакінула ў спакоі? Дзе там! Яно наладжвала нам адно выпрабаванне за другім. Нешта праз год недзе пад сярэдзіну чэрвеня як снег на галаву зваліўся мароз. І так пекануў азімыя, што праз дзень яны звялі, зжаўцелі і, лічы, прапалі.

Давялося перасяваць. Але ж нельга было мірыцца з тым, каб такое магло паўтарыцца і надалей. Трэба было шукаць нейкае выйсце са становішча. Таму вырашылі так: бульбу саджаць толькі на землях натуральных. Далей: замест ячменю, што лажыцца пластом на тарфяніках і які потым не падняць і не ўзадраць з долу анічым, сеяць пшаніцу: менш схільная да палягання.

А тут яшчэ ў дадатак зрабілі нашу гаспадарку спецыялізаванай, перавялі на адкорм цялят. Што гэта значыць, зразумець няцяжка. Бяры і адкормлівай цялятак на мяса. А каб адкарміць іх, патрэбна не менш як два гады. Правалэндаліся мы гэтак колькі гадоў, бачу — непяраліўкі. Калі так пойдзе і далей — капцы! Паехаў у раён, забіў трывогу. «Вы што, кажу, таварышы, хочаце мяне з торбай па свеце пусціць? Зірніце, што робіцца з гаспадаркай. Б'яце гэтай спецыялізацыяй ніжэй пояса, пад самы дых». Памеркавала, разважыла раённае кіраўніцтва: «Праўда, — кажуць, — цераз край хапілі». І зрабілі гаспадарку мяса-малочнага ўхілу па адкорме буйной рагатай жывёлы. Уздыхнулі мы з палёгкай. Можна было адсапнуцца, перавесці дух. Як усё роўна прасветліна перад вачамі адкрылася. Яно і зразумела! Выпасаў у нас уга колькі! Гэта калі браць плошчу, пушчаную пад травы. Але і тут ёсць свая загвоздка. Справа ў тым, што асушэнне ў нашых мясцінах вялося недзе ў

(Заканчэнне на стар. 4).

**РЭПАРТАЖ У НУМАР**

# Шлях пачынаўся з Пасадца

**Гэта таксама добрая традыцыя Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Калі святкуецца юбілей знакамітага творцы, урачыстасці праходзяць не толькі ў лепшых залах горада-героя Мінска. У абавязковым парадку адбываюцца яны і на радзіме літаратара, там, дзе жылі ці жывуць прататыпы герояў яго кніг, адкуль пачалася дарога ў свет і да людзей.**

**«Малая радзіма» Змітрака Бядулі — колішняе мястэчка Пасадзец, а цяпер вёска Лагойскага раёна. Самая аддаленая, на самай мяжы з Вілейшчынай. Праўда, колішнія дрымучыя лясы — нездарма ж аўтабіяграфічная аповесць пісьменніка так і называецца — «У дрымучых лясах» — адступілі ад Пасадца, ды ўсё ж прырода радуе тут па-ранейшаму сваёй нерушавасцю, а маладыя сосны падступаюць ледзь не да самых хат.**

**У тутэйшай васьмігодцы, якая носіць імя слаўнага земляка, аформлены невялікі мемарыяльны пакой. Вучні пад кіраўніцтвам педагогаў сабралі экспанаты, што расказваюць пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, у першую чаргу пра яго жыццё ў Пасадцы. Аб гэтым нагадвае і мемарыяльная дошка, якая вісіць ля ўвахода ў будынак: «У вёсцы Пасадзец... нарадзіўся выдатны беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля. Тут ён правёў дзіцячыя і юнацкія гады і пачаў сваю літаратурную дзейнасць».**

**Ушанаваць памяць аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай паэзіі і прозы прыехала ў Пасадзец дэлегацыя літаратараў на чале з першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі Н. Гілевічам. (Перад гэтым госці пабывалі ў Лагойскай сярэдняй школе № 1, дзе аформлены музей «Літаратурная Лагойшчына», прысвечаны творчасці пісьменнікаў-землякоў). У Пасадцы адбыўся ўрачысты сход у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння З. Бядулі. Задоўга да пачатку клуб мясцовага калгаса імя Энгельса запоўнілі хлебаробы гаспадаркі, вучні і настаўнікі.**

**Месца і роля З. Бядулі ў гісторыі беларускай літаратуры... Жыццёвасць ягоных кніг, што сёння чытаюцца з гэткай жа цікавасцю, як і дзесяткі гадоў назад... Магутнасць таленту, здольнага выявіцца надзвычай шматгранна... Народнасць яго, бачная і ў глыбокім веданні жыцця, і ў здольнасці ў творах абганяць час... Любоў З. Бядулі да беларускай мовы, як адзін з вытокаў любові да Радзімы... Берагчы і ўшаноўваць памяць аб пісьменніку-класіку — значыць гэтаксама, як ён, паважна ставіцца да таго, што дорага з маленства, і найперш мовы, без якой няма і не можа быць народа...**

**Гэтыя аспекты ў той ці іншай ступені закранаюцца ў выступленнях вядучай — яна ж *адкрыла ўрачысты сход* — сакратара Лагойскага райкома КПБ С. Русак, намесніка старшыні Лагойскага райвыканкома З. Патапёнак, заслужанага настаўніка БССР, выдатніка народнай асветы К. Зянькевіча, выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Лагойскай СШ № 1, ініцыятара стварэння музея «Літаратурная Лагойшчына» В. Саўрыцкай, Н. Гілевіча, І. Пташнікава, А. Вярцінскага.**

**Асабліва цёпла сустракаюць прысутныя Н. Гілевіча і І. Пташнікава, творчасць якіх добра ведае кожны. Гэтыя пісьменнікі — таксама родам з прыгожага, песеннага, шчодрага на таленты кутка, назва якому — Лагойшчына. Н. Гілевіч нарадзіўся ў вёсцы Слабада. Радзіма І. Пташнікава — Задроздзе, а сямігодку будучы пісьменнік заканчваў у Крайску. Прыемныя мінуты перажываюць усе, далучаючыся да твораў З. Бядулі. Заслужаная артыстка БССР Т. Нікалаева чытае апавяданне «Малыя дрывасекі», а заслужаны артыст БССР П. Дубашынскі знаёміць з урыўкам з паэмы «Беларусь» і адным з вершаў пісьменніка...**

**Ва ўрачыстасцях у Пасадцы прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры Мінскага абкома КПБ А. Стрыжэвіч, старшыня Лагойскага райвыканкома М. Крэсік, сын пісьменніка Я. Плаўнік.**

**НАШ КАР.**

**МУЗЫКА**

# БАХАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

Педагогі і студэнты-скрыпачы музычных навучальных устаноў Мінска амаль два месяцы наведвалі гэтыя цікавыя лекцыі. Яны былі наладжаны кафедрай скрыпкі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і прысвячаліся выдатным творам І. С. Баха—6 санатам і партытам для скрыпкі сола. З гэтымі унікальнымі сачыненнямі, якія ўваходзяць у рэпертуар усіх скрыпачоў - канцэртантаў, абавязкова знаёмяцца студэнты кансерваторыі і навучэнцы старшых курсаў музычных вучылішчаў. Аднак яны заўсёды былі таямніцай для выканаўцаў любога ўзроўню. Бо глыбіня гэтай дзівоснай музыкі вымагае ад выканаўца і эрудыцыі, і творчай інтуіцыі, і дасканалага валодання інструментам...

Бахаўскім творам было прысвечана 6 лекцый, якія сабралі вялікую аўдыторыю зацікаўленых слухачоў. У правядзенні гэтага семінара ўдзельнічалі амаль усе выкладчыкі кафедры БДК. Разглядаліся і гістарычныя аспекты, якія абумовілі з'яўленне названых бахаўскіх твораў, і методыка іх выкладання, вялася гаворка пра шматлікія рэдакцыі санат і партыт, іх інтэрпрэтацыі, праслухоўваліся рэдкія запісы, гучала жывое выкананне, усчыналіся агульныя дыскусіі. Асаблівае значэнне мела тое, што ў гэтых сустрэчах удзельнічала і ажыццяўляла агульнае кіраўніцтва семінарам загадчыца кафедры скрыпкі БДК прафесар В. Пархоменка. Словам, было па-сапраўднаму і цікава, і павучальна.

Мы жывём у такі час, калі свежы вецер перамен адчуваецца і ў нашых аўдыторыях. Думаецца, тое новае, што прыходзіць цяпер да нас, скрыпачоў, з кафедры БДК, дасць канкрэтныя, практычныя вынікі ў нашай агульнай педагагічнай рабоце.

**А. ВАКСЕР,**
**старшыня цыклавай камісіі «струнныя інструменты» Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі.**

# УПЕРШЫНЮ НА ФІЛАРМАНІЧНАЙ СЦЭНЕ

Упершыню аркестр народных інструментаў нашай кансерваторыі выступіў на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэта працяг добрай традыцыі — справаздач студэнтаў перад шырокім слухачом. Агульнае ўражанне ад канцэрта добрае. Ен стаў сапраўдным святам для ўсіх аматараў народнай музыкі.

У праграме прагучалі розныя па змесце і стылі творы савецкіх, у тым ліку беларускіх, і замежных кампазітараў, што сведчыць пра дастаткова ўзрослае прафесійнае майстэрства маладых музыкантаў. Упершыню ў Мінску былі выкананы Канцэрт для аркестра «Смаленскія кадрылі» В. Кікта і нядаўна знойдзенае сачыненне Э. Грыга «Сімфонія». У цікава інструментаваным для народнага аркестра Трэцім цымбальным канцэрце Д. Смольскага саліравала А. Ткачова, якая паказала свабоднае, віртуознае і натхнёнае валоданне інструментам.

«Беларускім народным песням» В. Іванова («Рабіначка», «Дубочак», «Жартоўная») уласціва выразнасць і лаканізм. У іх адчуваецца трывалая сувязь з родным музычным фальклорам. Салістка Т. Пячынская ў кожнай з трох песень знайшла дакладны «вобразны ключ», выявіла эмацыянальныя асаблівасці гэтых вакальных мініяцюр. Баяністка С. Лясун выканала сольную партыю ў пералажэнні фіналу Першага фартэпіяннага канцэрта Р. Шчадрына. Цудоўнае веданне патэнцыяльных магчымасцей баяна дазваляе гэтай выканаўцы раскрыць змест твора ў новым інструментальным абліччы. Своеасаблівым аркестравым каларытам прывабілі музычная карціна «Руская зіма» В. Гарадоўскай, «Інтэрмедыя» М. Хіменеса. З сапраўдным уздымам аркестр сыграў «Канцэртную лезгінку» М. Кажлаева.

Інструментоўкі для народнага аркестра, якія прагучалі ў канцэрце, зроблены дырыжорам С. Кафанавым і яго студэнтамі. Галоўная якасць дырыжора — веданне і разуменне музыкі, улюбёнасць у яе. На гэта і скіроўвае будучых спецыялістаў дацэнт БДК С. Кафанаў.

**М. МІЦУЛЬ,**
**выкладчыца Мінскага інстытута культуры.**

# НАДЗЕЯ І ВЕРА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).**

шасцідзесятыя гады. І да ўсяго — адкрытым спосабам. Трэба сказаць, што пасля ніхто не сачыў за каналамі і канавамі. Яны паволі самі па сабе заплывалі тванню, зарасталі чаротам і травой. Разам з імі тымі самымі тэмпамі зарасталі кустоўем, асакою, рознай іншай непатрэбшчынай і тарфянікі. Дайшло да таго, што некаторыя мясціны зноў сталі забалочвацца. Вось чым плаціць за нашу няўвагу прырода. Спахапіліся мы, ды было позна. Кінуўся я зноў у раён: «Трэба, — кажу,— правесці паўторнае асушэнне...» А там узнялі галовы ад сталоў, глядзяць на мяне так, нібы хочуць пераканацца: ці ў сваім розуме чалавек? Старшы інжынер упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома Анатоль Іванавіч Валынкін астудзіў мяне: «Сродкаў, даражэнькі, няма. Не можам жа мы два разы адну і тую ж балацявіну асушаць!» Я ў адказ: «Не асушаць, а рабіць рамонт меліярацыйнай сістэмы». — «А хіба на рамонт не патрэбны грошы? У раёне 20 тысяч гектараў асушаных раней зямель просяць рамонту! Даведзены афіцыйны план. Дзе нам гэтулькі тэхнікі ўзяць, каб управіцца з такой плошчай? Ты падумаў пра гэта? Ну, дык сядзь ды добра падумай, паламай, як след, галаву над гэтай задачкай!»

Праўда, на гэтым справа не скончылася. Пачаў я стукацца ў дзверы іншых кіраўнікоў раёна. І таго-сяго дамогся. Вырашылі правесці культурна-тэхнічныя работы на нашых землях. Што гэта значыць? А ўсяго-наўсяго — ачысціць тарфянікі ад кустоўя, асакі і чаротаў, падрыхтаваць іх пад ворыва. А цяпер давайце паразважаем, што гэта дае? Амаль нічога! Эфект, што называецца, раўназначны нулю. Хіба не зразумела, што галоўная бяда для нашых тарфянікаў — паўторнае забалочванне? Няхай мы знішчаем кустоўе і ўсё астатняе, што глушыць тарфянікі, выводзіць іх са строю, усё роўна яны не стануць той зямлёй, дзе могуць расці травы ці штонебудзь іншае. Да ўсяго, па нізкай, забалочанай зямлі не можа пайсці тэхніка. Пад выпасамі зямля таксама доўга не пратрымаецца. Мяккую і вадзяністую, яе змесіць, стопча жывёла так, што жывога месца не знойдзеш. Колькі разоў гаварыў я пра гэта раённаму начальству, у тым ліку і Валынкіну, а воз, як кажуць, і сёння там.

Неяк сталася так, што ўсё сышлося, звязалася ў адзін тугі вузел, што не развязаць, не рассячы. Трэба было адначасова на іншых тарфяніках рабіць неадкладнае перазалужэнне. А як яго рабіць? Перш-наперш, трэба ўзараць, калі так можна сказаць, зношаныя выпасы. А для гэтага трэба ў сваю чаргу мець спецыяльны плуг і магутны гусенічны трактар «Кіравец». Дзе яго ўзяць? Вядома, яго магла даць перасоўна-механізаваная калона 65, якая абслугоўвае раён. Але, як я ўжо гаварыў, гэта калона не можа разарвацца. Не можа адзін і той жа трактар працаваць адразу ў дзвюх-трох гаспадарках! Таму ён на вагу золата. Праўда, механізатары перасоўнай калоны падрыхтавалі **пад перазалужэнне** каля паўсотні гектараў, але — як падрыхтавалі? Каб толькі адчапіцца. Нават не выраўнялі як след плошчу. Зямля ляжала гарбамі. Не работа, а адзін здзек з тарфянікаў.

Павінна была падрыхтаваць сто гектараў асушаных зямель і сельгасхімія. Але там як усё роўна забыліся на калгас і на свае прамыя абавязкі. Ці то сілы не хапала, ці то іншае замінала. Так ці інакш, а сто гектараў як былі запланаваны на паперы, гэтак і засталіся толькі *запланаванымі*. Бачаць калгасныя механізатары, што абяцанага трэба тры гады чакаць, ды кажуць: «Давайце, Іванавіч, сваімі сіламі перазалужым тарфянікі. Не можа быць, каб у нас нічога не атрымалася». Селі на трактары Генадзь Скробат, Васіль Уласенка, Іван Башмак і часткова летам, часткова восенню ўзаралі сто трыццаць гектараў асушаных зямель і перазалужылі іх. Гэта, вядома, кропля ў моры, калі ўлічыць, што ў нашым калгасе 1120 гектараў меліяраваных зямель. І ўсю гэту плошчу трэба было перазалужваць. А для таго, каб перазалужваць тарфянікі, асушыць іх, трэба канава. Гэта значыць, пачынаць амаль усё спачатку.

Я гавару пра залужэнне, рамонт асушаных зямель, а на языку круціцца такое непрыемнае для мяне слова — рэкультывацыя. Гэта нянаскае слова цяжка вымавіць, а яшчэ цяжэй рабіць гэту рэкультывацыю. вяртаць да жыцця, лічы, мёртвую глебу. Тыя плошчы, на якіх не адзін год вяліся торфараспрацоўкі. Ой, каб хто ведаў ці ўявіў, як цяжка ажывіць такія, з дазволу сказаць землі! У нас іх недзе больш за сто гектараў. Рэкультывацыю, як правіла, павінна праводзіць сельгасхімія. Што ім належыць зрабіць па запланаваным каштарысе? Сабраць з адпаведнай плошчы драўніну і ўсялякае іншае ламачча. А дзе гэта патрэбна — асушыць зямлю, выраўняць і ўзараць яе, услед за гэтым унесці неабходную колькасць угнаення. Ці робіцца гэта на самой справе? Нешта робіцца. Але што з гэтага атрымліваецца?

Гады два таму назад ва ўрочышчы Кормачка ў калгасе імя Калініна было рэкультывавана нешта каля сарака гектараў такой плошчы. І, вы думаеце, вырасла там што-небудзь? Нават трава не праклюнулася. Зноў узаралі, унеслі ўгнаенні. Цяпер чакаюць, што выйдзе з усяго гэтага.

У нас жа такой зямлі больш за сотню гектараў. Даць ёй другое жыццё не лягчэй, чым мёртвага на ногі паставіць. Ва ўрочышчы Паложкі ў нас тыя ж самыя механізатары з сельгасхіміі *ўбралі і ўзаралі* каля васьмідзесяці гектараў. Зямля тут нішчымная, пераўвільготненая. Што яна можа радзіць ці даць, невядома. І ўвогуле трэба падумаць, ці прыдатная такая зямля не толькі пад збажыну, але і пад звычайную дзікарослую траву? Зрэшты, як быць, што рабіць з такімі землямі? Яны патрабуюць да сябе навуковага падыходу. На мой розум, дык перш, чым брацца за рэкультывацыю, трэба зрабіць дасканалы аналіз глебы, каб ведаць, чаго яна патрабуе, што ў яе ўносіць. Можа, у глебе не хапае магнія, можа, бракуе медзі. Магчыма, у ёй маецца вялікая кіслотнасць і яе трэба правапнаваць. У нас пакуль што такога падыходу да справы не практыкуецца. Большасць з таго, што робіцца, робіцца на вока! Зірне начальства на глебу: «А тут, здаецца, ніштаватая сабе зямля. Можа, што і вырасце на ёй». Узаруць, а зямля, як ялаўка, пустуе сабе да таго часу, пакуль не спахопяцца: «Маўляў, што гэта мы забыліся на такі вялікі кавалак зямлі? Давайце, таварышы, возьмемся за яго? Гэтулькі ў нас тэхнікі, вучоных кадраў. Хіба не зможам даць гэтай зямлі належнай рады!»

Што і казаць! Праблем у нашым калгасе столькі, хоць адбаўляй. Справіцца б толькі з імі! З жыллём не ўсё ладна. Добра, што нам дапамагаюць у гэтай справе шэфы: рабочыя механізавана-перасоўнай калоны нумар 50. Яны ўзвялі ў калгасе семнаццаць дамоў. Эх, калі б іх пабудаваць столькі, колькі хацелася б! І рабочыя кадры з'явіліся б, і многае іншае. Прыходзяць у калгас і цяпер. Вярнуўся ў калгас механізатар Мікалай Назаранка і шафёр Віктар Форналь. З Васілевіч прыехалі Ліда і Пётр Верхагляды. Ліда працуе даяркай, а Пётр — пастухом. Гэтаму толькі радуецца душа. Маркоціцца няма чаго. У нас усё наперадзе. Не можа таго быць, каб мы не займелі столькі дамоў, якіх хапіла б і для калгаснікаў, і для тых, хто вернецца ці прыедзе ў наш калгас. Усё ж ідзе да гэтага. Я веру і спадзяюся на лепшае.

**Васіль МАКАРЭВІЧ.**

## КНІГАПІС

EL BUEY NEGRO DE MIS CUITAS...
Rygor Borodulin

Р. БАРАДУЛІН. Чорны вол маёй трывогі... Выбранае. На іспанскай мове. Пераклад К. Шэрмана. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.

**У справе засваення іспанамоўнага свету беларускай паэзіяй наглядаецца пэўная заканамернасць. Кніга паэзіі А. Куляшова «Мая Бесядзь», лірыка Янкі Купалы і Якуба Коласа «Папараць-кветка», шматлікія падборкі вершаў Максіма Танка, апублікаваныя ў часопісе «Советская литература» і ў кубінскім друку... У канцы мінулага года выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла выбраную лірыку Рыгора Барадуліна «Чорны вол маёй трывогі...» Гэтая кніга — вынік даўняй творчай дружбы перакладчыка і аўтара, дружбы, якая пачалася з працы перакладчыка над творамі выбранага паэта «Свята пчалы» (1975). У кнігу «Чорны вол маёй трывогі...» і ўключаны вершы са «Свята пчалы», а таксама з выдадзеных пазней зборнікаў «Вечалле» (1980) і «Амплітуда смеласці» (1983). Кніга атрымалася разнастайнай па тэматыцы, але кампазіцыйна цэласнай, яна адлюстроўвае шырокі творчы дыяпазон аўтара, яго бачанне свету.**

**На супервокладцы кнігі змешчана слова Андрэя Вазнясенскага пра паэта, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «У наш сінтэтычны час слова майго беларускага сябра Рыгора Барадуліна быццам храм, гулкі і ўрачысты храм, узведзены на берагах яго родных, спрадвеку чыстых ледніковых азёр, храм чалавека і чалавечнасці. У ім тонкасць першага наскальнага малюнка і водгалас новых зор, лёгкасць сярэдневяковай фрэскі і рубленае харасство драўлянай хаты.**

**У наш час паэтычнай бязважкасці Р. Барадулін выяўляе ўдзельную вагу, смак, пах і колер слова, ён падпарадкоўвае паэтычныя сродкі задачы праяўленню слова ў першароднай яснасці жывой матэрыі духу. Метафара для яго не лялька ў руках перарослага дзіцяці, а агонь, агонь ісціны ў руках Майстра».**

**Рускі паэт, ганаровы член Акадэмій мастацтваў Францыі і ЗША А. Вазнясенскі выказвае думку, што чорны вол трывогі і белы вол надзеі вядуць па жыцці паэзію беларуса Р. Барадуліна на многіх мовах, вядуць дзеля ўзаемаразумення людзей на зямлі. Гэтаму служыць і перакладчыцкая дзейнасць Р. Барадуліна.**

**«Чалавек, які адкрыў Гарсія Лорку і Габрыэлу Містраль для беларускага чытача, сёння прыходзіць да чытача, на мове якога гаварылі Гарсія Лорка і Габрыэла Містраль. У гэтым факце літаратурнага жыцця мне бачыцца не толькі перст паэтычнага лёсу Рыгора Барадуліна, але і яшчэ адна іпастась гуманістычнай ролі сапраўднай паэзіі, для якой няма перашкод», — заключае сваё слова Андрэй Вазнясенскі і жадае творам Р. Барадуліна добрай дарогі да сэрцаў і памяці новых чытачоў.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

ДЫЯЛОГІ

# СПАДЗЯВАННЕ НА ПЛЁН

**З эстонскім перакладчыкам Олевам ЙЫГІ гутарыць наш спецыяльны карэспандэнт Сяргей ШУПА**

Ніхто, бадай, не стане аспрэчваць, што наяўнасць багатай перакладной літаратуры не ў меншай ступені, чым развіццё арыгінальнага пісьменства, сведчыць аб высокім узроўні духоўнай культуры народа. Перадача роднай мовай зафіксаваных пісьмова здабыткаў сусветнай культуры не толькі пашырае сацыяльна-культурныя далягляды чытацкай аўдыторыі, але і адчувальна ўплывае на развіццё літаратурнага працэсу, спрыяе ўзбагачэнню моўных сродкаў. Іншымі словамі, пераклады складаюць арганічную частку агульнай літаратурнай прадукцыі, выступаючы пры гэтым як палі перасячэння роднай і сусветнай літаратуры.

Апошнім часам на старонках беларускага друку сталі ўсё часцей з'яўляцца матэрыялы, дзе з увагай і заклапочанасцю разглядаюцца праблемы перакладчыцкай справы. Між іншым, лімаўскія публікацыі («Нашы кантакты — наша багацце», № 52, 1985, «Наша школа» ў № 12, 1986 г.) азнаёмілі нас са станам перакладу ў нашых бліжэйшых суседзяў — латышоў і літоўцаў. Былі закрануты некаторыя праблемы, што з'яўляюцца для нас надзвычай актуальнымі, набалелымі. На жаль, тыя гутаркі не выпадае назваць «абменам вопытам», бо ў гэтым плане мы бяром (можам узяць...) у суседзяў значна болей, чым даём. Працягнем і сёння гэткі аднабаковы абмен вопытам і завітаем у трэцюю прыбалтыйскую рэспубліку — Эстонію, з усіх трох найбольш адлеглую ад нас як у прасторы, так і ў колькасных паказчыках перакладной літаратуры.

Першая сустрэча з перакладной літаратурай адбываецца ўжо ў першыя хвіліны знаходжання на эстонскай зямлі. Ужо ў аэрапорце ці на вакзале ў газетным кіёску можна пабачыць чорныя брашуркі з літарамі «ЛР». Тыднёвік «Ломінгу раматукогу» («Бібліятэка «Ломінгу») — самае аператыўнае выданне, часам ён змяшчае і арыгінальныя творы, але найбольш (каля 80 прац.) — пераклады. Такім чынам, штотыдзень эстонскі чытач атрымлівае кніжку перакладаў: аповесць, невялікі раман (падвойныя, часам патройныя нумары), або зборнік апавяданняў тыражом 15000 экземпляраў.

Зайшоўшы ў кнігарню, проста дзівішся колькасці перакладной літаратуры: Пруст і Фейхтвангер, Юрсэнар і Чэйс, Колас, Купала, Чорны... Дый не дзіва: у 1983 годзе з 232 кніг мастацкай літаратуры, выдадзеных па-эстонску, 129 (больш паловы) склалі пераклады. Самі эстонцы тлумачаць: за кошт перакладаў ідзе асноўны прыбытак выдавецтва, кампенсуецца адмоўны баланс сучаснай арыгінальнай, у большасці неакупальнай літаратуры. «Макулатурных» дэфіцытных кніг эстонскія выдавецтвы не выдаюць. Няма патрэбы. А большасць тых «Чынгісханаў», «Мушкецёраў», Друонаў, што прадаюцца ў талінскіх кнігарнях за талоны, — нашыя з вамі «землякі», прадукцыя мінскіх выдавецтваў.

Уражвае ў Эстоніі аб'ём, змест і колькасць розных серыйных выданняў, якія, пэўна, усе і не пералічыш. «Мы — народ, які любіць кніжныя серыі», —прызнаўся эстонскі перакладчык Эн Сосар. Спынімся адно на універсальных, важнейшых, што з'явіліся за апошнія 30 год. Серыя «Вялікія майстры слова» (1957—1961) ахапіла 33 раманы 31 пісьменніка, цалкам — 48 тамоў. У ёй прадстаўлены 11 еўрапейскіх літаратур, літаратуры ЗША, Індыі і Кітая. Наступная серыя — «Кніга XX стагоддзя» (1962—1970) ахапіла яшчэ шырэйшае кола аўтараў — 66 тамоў; пашырылася і геаграфія. Каб кампенсаваць некаторыя недахопы папярэдніх, была запланавана і выдадзена серыя «Скарбніца» (1972—1983) — амаль 50 твораў 39 аўтараў у 40 тамах (двума тамамі выйшла трылогія Я. Коласа «На ростанях»). Сярод аўтараў «Скарбніцы» — Ф. Дастаеўскі, Г. Сянкевіч, К. Чапек, А. Стрындберг, Г. Гесэ, А. Уайльд, Н. Готарн, Х. Мэлвіл, У. Фолкнер, Г. Флабэр, М. Пруст.

Нагадаем, што ёсць і іншыя серыі — прыгодніцкай літаратуры, фантастыкі, паэзіі XX стагоддзя, прозы і паэзіі народаў СССР і іншыя. Да здабыткаў эстонскай школы перакладу належаць поўны Збор твораў Шэкспіра, 15 тамоў твораў Бальзака, пераклады з Гамера, народных эпасаў «Лачплесіс», «Давід Сасунскі», «Калевала».

І яшчэ. Абсалютная большасць літаратуры перакладаецца ў Эстоніі непасрэдна з мовы арыгінала, прычым паводле розных крыніц, колькасць моў, з якіх перакладаюць непасрэдна, складае ад 30 да 50! І гэта ў рэспубліцы, дзе няма нават інстытута замежных моў, а ў Тартускім універсітэце на аддзяленне, скажам, французскай мовы набор праводзіцца нават не кожны год. Нягледзячы на гэта, перакладчыкаў у Эстоніі так шмат, што ходзяць пагалоскі аб патрэбе стварэння аўтаномнага Саюза перакладчыкаў.

Чым жа тлумачыцца такая інтэнсіўная дзейнасць эстонскіх перакладчыкаў? У нас жа быццам і ўмовы не горшыя — і свой інстытут, і выдавецкая база на ўзроўні... Сярод шматлікіх прычынна-выніковых сувязей варта адзначыць адну: развіццё мастацкага перакладу не ў першую чаргу залежыць ад стану вывучэння замежных моў (пры выдатным веданні сваёй роднай), ад колькасці навучальна-дапаможнай літаратуры, даведнікаў, слоўнікаў. Апошнімі гадамі ў Эстоніі выйшлі (апроч школьных) наступныя падручнікі для самастойнага навучання або навучання на моўных курсах: французскай, іспанскай, фінскай, эсперанта, шведскай моў. Слоўнікі — англійска-, нямецка-, французска-, шведска-, чэшска-, балгарска-эстонскія, латышска-эстонскі, эстонска-латышскі (выйшаў у Рызе), літоўска-эстонскі. Натуральна ж, уся названая тут літаратура прызначана для навучання на аснове эстонскай мовы. Думаецца, што спадзявацца на нейкі плён у галіне мастацкага перакладу на Беларусі можна будзе толькі тады, калі і ў нас вывучэнне (і выкладанне) замежных моў будзе абапірацца на родную мову.

Працягваючы ўяўнае падарожжа па краіне эстонскага мастацкага перакладу, завітаем у госці да старэйшага сябра беларускай літаратуры ў Эстоніі, заслужанага перакладчыка Олева Йыгі, каб задаць яму некалькі пытанняў.

— Олеў Адавіч, у наш час пашыраюцца ўсебаковыя кантакты паміж народамі, і адной з найважнейшых сфер такіх кантактаў ёсць літаратура. Ці ўсё добра, на вашу думку, у стане беларуска-эстонскіх літаратурных сувязей? У стане перакладаў з адной мовы на другую?

**— Без сумнення, беларуска-эстонскія літаратурныя сувязі пакідаюць жадаць лепшага. Толькі ў 1962 годзе ў нас выйшла першая кніга, перакладзеная з беларускай мовы. Што датычыць цяперашняга становішча, дык трэба адзначыць, што перакладчыкаў з беларускай мовы мала, дый тыя, хто ёсць, не ў стане зрабіць тое, што трэба было б. Яшчэ чакае сваіх перакладчыкаў творчасць нават вашых класікаў Купалы і Коласа. З сучасных беларускіх паэтаў у нас ведаюць толькі сяго-таго. Наша выдавецтва «Эсці рамат» не было ў стане арганізаваць пераклад беларускай паэзіі. Гэта — з нашага боку. А ў вас! Нядаўна я сабраў трохі інфармацыі наконт таго, што з эстонскай літаратуры перакладзена на беларускую мову. Асаблівай радасці не было.**

— Так, на жаль, перакладаецца мала, і неяк вельмі выпадкова. Перакладаюць, нібы страляюць з завязанымі вачыма — куды пацэляць. Якія, на вашу думку, прычыны такой непераборлівасці?

**— Справа ў тым, што перакладчыкам няма на што арыентавацца. У нас, напрыклад, цяжка атрымаць інфармацыю аб беларускай літаратуры. Як мне вядома, на Беларусі не выдаецца перыядычных інфармацыйных даведнікаў аб навінках літаратуры. А літаратурныя часопісы занадта вялікія, няма часу іх перачытаць, каб вырашыць, які твор варта было б перакласці на эстонскую мову. Бо як перакладчык чытае часопіс! Яго позірк спыняецца ўсё на тых самых імёнах, але менш вядомыя аўтары, чые творы таксама могуць быць вартыя ўвагі, застаюцца незаўважаныя. Праўда, трошкі дапамагаюць крытычныя агляды, але ў гэтым выпадку перакладчык мусіць даверыцца густу крытыка.**

— Ці цяжкасць арыентацыі ў літаратуры — адзіная праблема, якая стрымлівае развіццё ўзаемнага перакладу?

**— Вядома ж, ёсць і іншыя праблемы. Вельмі цяжка дастаць больш-менш капітальныя даведнікі, слоўнікі і іншыя дапаможныя матэрыялы, неабходныя перакладчыку. Усе такія кнігі (энцыклапедыю, апошнія тамы тлумачальнага слоўніка, беларуска-рускі слоўнік, слоўнік Насовіча, энцыклапедыю літаратуры і мастацтва (я атрымаў з дапамогай асабістых знаёмстваў, у тым ліку ад аўтараў перакладных твораў (І. Мележа, Я. Брыля), якія паставіліся да маіх патрэб з надзвычайным разуменнем. Але аб тым, якія карысныя інфармацыйныя крыніцы на Беларусі выдаюцца зараз або рыхтуюцца да друку, перакладчык нічога не ведае. Трэба ўлічваць, што з цягам часу перакладчык робіцца «ўпаўнаважаным» іншай літаратуры ў сваёй краіне, да яго звяртаюцца з пытаннямі, ён прадстаўляе перад чытачамі сваёй краіны іншую літаратуру, і таму ён патрабуе значна шырэйшай інфармацыі, чым для звычайнай практычнай перакладчыцкай дзейнасці. Праўда, колькі год назад у Таліне адкрылі адмысловую кнігарню, якая павінна прадаваць літаратуру народаў СССР, але, прынамсі, беларускі аддзел існуе там толькі фармальна. На працягу некалькіх год я рэгулярна заходзіў туды, але набыў за гэты час усяго дзве-тры кнігі. Заказы на даведнікі, слоўнікі і да т. п. не прымаюцца. Такім чынам, калі ўжо сур'ёзна гаварыць аб развіцці культурных сувязей, трэба перадусім добра наладзіць узаемную інфармацыю і зрабіць даступнымі аднаму народу культурныя дасягненні другога народа.**

— Аналагічная кнігарня, дарэчы, працуе і ў нас. Тыя пяцьшэсць эстонскіх кніг, што ляжалі на адпаведнай паліцы гады тры назад, відаць, так і не памяняліся. Не памятаю, каб там прадаваліся падручнікі, слоўнікі і іншы перакладчыцкі «рыштунак». А такія кнігі карысталіся б попытам не толькі ў перакладчыкаў. Дарэчы, аб падручніках. У выступленні на старонках «ЛіМа» латышскі паэт і перакладчык У. Бэрзіньш выказаў пажаданне ўбачыць калі-небудзь «лёгкі і дасціпны самавучыцель беларускай мовы з пласцінкай», а таксама перакладныя латышска-беларускі і беларуска-латышскі слоўнікі. Ці адчуваецца такая патрэба ў Эстоніі?

**— Я лічу, што ў Эстоніі патрэбны кнігі, якія б знаёмілі з мовамі ўсіх саюзных рэспублік, у тым ліку і з беларускай. Яны маглі б змяшчаць агляды гісторыі і сённяшняга стану гэтых моў, у агульных рысах звесткі пра граматыку, фанетыку, лексіку і г. д. Адным словам, каб той, хто цікавіцца, мог атрымаць праз кнігу нейкае ўяўленне аб гэтых мовах. Там можна было б змясціць і невялічкія размоўнікі. Я з задавальненнем падтрымаў бы думку латышскага таварыша, бо ўсялякае папулярна-лінгвістычнае выданне мае карысць і заслугоўвае адабрэнне. Але ўлічваючы тое, што ў нас у Эстоніі няма — акрамя рускамоўных — ніякіх слоўнікаў на мовах народаў СССР (ёсць, праўда, латышска-эстонскі і літоўска-эстонскі, дый тыя параўнальна невялікія), а размоўнікаў — яшчэ менш, на сённяшні дзень думка аб неабходнасці адпаведнага выдання на беларускай мове выглядае пакуль што фантастычнай. Латышы і літоўцы ў гэтых адносінах, напэўна, у іншым становішчы, бо яны бліжэй да Беларусі і маюць з ёй больш этнічных і гістарычных сувязей.**

— Але ж нягледзячы, што яны ў іншым становішчы, да выдання падручнікаў, ці хоць бы слоўнікаў, яшчэ далёка. А пакуль не будзе такой літаратуры ці нейкіх спецыяльных моўных курсаў, валодаць мовамі іншых народаў СССР і ў нашых рэспубліках, і ў іншых будуць толькі адзінкі. У выніку гэтага — пераклады з большасці моў народаў СССР робяцца праз трэцюю мову. Але ж нягледзячы на багатыя традыцыі рускай перакладной літаратуры яна часам падносіць нам недакладныя пераклады і

(Заканчэнне на стар. 6).

## Чытацкі дзённік пісьменніка

# З ЛЁСАМ НАРОДНЫМ

Кінарэжысёр, расказваючы па радыё пра сваю новую работу, гаворыць: «Мы рабілі фільм лірычны, светлы, і калі нам удалося перадаць гэта пачуццё гледачу, калі ён будзе пакідаць залу з усмешкай,—будзем лічыць, што сваю работу выканалі».

«Мала!» — хацелася ўголас запярэчыць гэтаму, не дужа патрабавальнаму рэжысёру. Занадта мала для мастацтва — разлічваць усяго толькі на ўсмешку. З гэтым — весяліць і пацяшаць—выдатна ў свой час спраўляліся скамарохі і балаганныя артысты. Задача ж сапраўднага мастацтва куды больш высокая і адказная — звяртацца да душы чалавека, уплываць на яго пачуцці і думкі, словам, выконваць грамадскую, ідэйна-выхаваўчую функцыю.

●

Што з'яўляецца прадметам мастацтва? Пытанне гэта апошнім часам стала аб'ектам самых гарачых спрэчак.

Нацэльваць мастацтва толькі на праблемы сённяшнія, канкрэтна-практычныя як быццам не выпадае. Для гэтага ёсць публіцыстыка. А з другога боку, як можна адгарадзіцца ад таго, што хвалюе людзей, што замінае, перашкаджае нашаму руху наперад, што азмрочвае, атручвае наша жыццё?

І вось чытаю ў М. Я. Салтыкова-Шчадрына, які, нібы падслухаўшы сённяшнія спрэчкі, піша: «Алімпійскае раўнадушша да бягучых (альбо, як звычайна гаворыцца, часовых) інтарэсаў рэчаіснасці зразумелае толькі тады, калі інтарэсы гэтыя ўладкоўваюцца самі сабою, ідуць сваёй чарадой, па аднойчы заведзенаму парадку... Але калі рэчаіснасць зацягвае ў сябе чалавека ўзмоцнена, калі наступае разуменне, што без нашага асабістага ўдзелу ніхто нашай справы не зробіць, ды і сама яна ніякім чынам не ўладкуецца, тады неабходнасць усвядоміць сябе грамадзянінам, неабходнасць прымаць удзел у агульнай плыні жыцця, а гэта значыць і мець пэўны погляд на з'явы яго, уяўляецца настолькі пільнай, што наўрад ці хто-небудзь можа ўхіліцца ад яе».

І далей: «У канчатковым выніку не можа існаваць... дробнага чалавечага інтарэсу ўжо з аднаго таго, што ён інтарэс чалавечы».

Вось так. Цвёрда і недвухсэнсоўна. Для мастацтва няма дробных, нязначных праблем. Ёсць хутчэй за ўсё дробныя, нязначныя мастакі, якія да жывой, кіпучай рэчаіснасці адносяцца абыякава, а то і пагардліва. Калі ж мастак — асоба, грамадзянін, ён заўсёды будзе ў самым віры жыцця, а за бягучымі, будзённымі справамі здолее разгледзець і тое, глыбінна істотнае, што мастацтва адносіць да катэгорыі вечнага, агульначалавечага.

●

У Неміровіча-Данчанкі ёсць цікавая думка аб тым, што здольнасць птушкі да палёту відна нават тады, калі яна, гэтая птушка, ходзіць па зямлі.

Дакладна сказана! І, вядома ж, не толькі пра птушку. Калі мець на ўвазе мастака, то нярэдка па адным зробленым штрыху, па адной напісанай фразе можна беспамылкова вызначыць: здольны ён да палёту ці не.

●

Мастацтва, на мой погляд,— гэта перш за ўсё пачуццё, а затым ужо — думка. Думка і пачуццё знаходзяцца паміж сабою ў такой залежнасці, як, скажам, плод і кветка. Як бы ні цанілі плод, усё ж такі не можам не прызнаць, што першай з'яўляецца кветка. Гэтаксама і мастацтва павінна прыходзіць, ці дакладней, уваходзіць у душу чалавека праз пачуццё, і толькі такім шляхам будзіць яго думку, жывіць яго розум.

●

Аразкул з аповесці Чынгіза Айтматава «Белы параход» — носьбіт злога, жорсткага пачатку. Прычым дзейнічае ён адкрыта, нахабна і... беспакарана. Спачатку нават узнікае недаўменне: чаму гэты нахабнік не атрымоўвае ў аповесці больш актыўнага процідзеяння. Пазіцыю дзеда Мамуна наўрад ці можна назваць актыўнай. Самае большае, на што ён асмеліўся, гэта сказаць Аразкулу ў твар: «Мярзотнік ты!» Але істотна змяніць што-небудзь ён бяссільны. Таму і плача — горка, няўцешна — стары чалавек ад таго, што такая поскудзь топча зямлю, атручвае людзям жыццё, бярэ верх над дабром, а ты бачыш, пакутуеш — і нічога не можаш зрабіць.

Чаму ж пісьменнік, вывеўшы зло ва ўсёй яго сіле і агіднасці, не даў яму прамога, рашучага бою, а пакінуў гэта як бы ў падтэксце, у будучым, уяўляемым развіцці падзей? Напэўна, таму, што такі, адкрыты, канец аповесці куды больш дзейсны, непараўнальна больш моцны па свайму эмацыянальнаму ўздзеянню на чытача. Калі твор заканчваецца перамогаю дабра, чытач, перажыўшы хвіліны высакароднага гневу, з палёгкаю ўздыхае: «Ну, вось і добра. Так яму, нягодніку, і трэба!» І супакойваецца. І міжволі пераносіць сітуацыю твора на рэальнае жыццё, думае, што і ў акаляючай яго рэальнасці зло таксама пакарана ўжо. Ва ўсякім разе, ствараецца такая ілюзія.

Адкрыты ж канец твора, калі зло і дабро застаюцца ў сваім варожым, непрымірымым супрацьстаянні, высакародны гнеў, абуджаны аўтарам у душы чытача, не прападае, не астывае і пасля прачытання, і гнеў гэты вымушае не толькі зло асуджаць, не прымаць, але і актыўна супраць яго дзейнічаць.

●

Наша літаратура заўсёды была, ёсць і будзе душою, сумленнем народа. Таму ўсялякія разважанні аб праве пісьменніка на фармальны эксперымент, аб плённасці пошукаў у сферы «чыстага мастацтва» і гэтак далей, — ёсць разважанні не толькі абсурдныя, але і шкодныя. Нашым ідэйным праціўнікам, канечне, вельмі б хацелася нашу савецкую літаратуру, якая заўсёды была востра сацыяльная, адкрыта грамадзянская, зрабіць звычайным пацешным чцівам, саштурхнуць яе на шлях бясплоднай фарматворчасці, снабісцкага ігнаравання рэалій жыцця.

Толькі не! Лепшыя кнігі сучасных пісьменнікаў, такіх, як Чынгіз Айтматаў, Віктар Астаф'еў, Васіль Бялоў, Васіль Быкаў, Валянцін Распуцін і многіх іншых, сведчаць аб тым, што глыбінныя традыцыі нашай літаратуры жывыя і сёння, што яна, як і заўсёды, звернута да розуму і душы чалавека, цесна знітавана з думамі і справамі народа, яго лёсам.

●

Фрэнсіс Бэкан, выдатны англійскі філосаф семнаццатага стагоддзя, усіх вучоных падзяляў на тры групы. Вучонага-дагматыка ён параўноўваў з павуком, які з самога сябе тчэ павуціінне сваіх навуковых сентэнцый. Таго, хто імкнецца толькі да максімальнага накаплення фактаў, Бэкан называў мурашом, які бяздумна валачэ ў кучу ўсё, што ні трапіцца яму на шляху. Сапраўдны ж метад навуковага пазнання, на думку англійскага філосафа, пачынаецца толькі тады, калі ёсць асэнсаваная, мэтанакіраваная перапрацоўка матэрыялу, што дае вопыт, практыка. Вучоны, які трымаецца гэтага метаду, падобны да пчалы.

Мне думаецца, што прадстаўнікоў усіх гэтых груп няцяжка знайсці і сярод служыцеляў муз.

●

«Ці патрэбны нейкія пабудовы (маецца на ўвазе літаратурныя творы), прыгодныя толькі для вельмі развітых, для выключна адукаваных чытачоў, для людзей, якія жывуць пераважна напружаным, інтэлектуальным жыццём? Безумоўна!»

Гэта сцвярджаецца ў нашай шаноўнай літаратурнай газеце аўтарам, які здабыў сабе вядомасць менавіта такімі «пабудовамі». Сцвярджаецца на поўным сур'ёзе, без аніякага ценю сумнення. Але ж, як мы ведаем, сапраўдная літаратура ніколі не была і не будзе, кажучы словамі Леніна, удзелам верхніх дзесяці тысяч, а тым больш удзелам купкі інтэлектуальных гурманаў, «гігантаў, якія валодаюць усімі тонкасцямі эстэтычнага ўспрымання свету». І не толькі літаратура ў цэлым, а нават асобны твор не можа, не павінен быць арыентаваны на нейкую эліту грамадства. Інакш дзеля чаго тады брацца за пяро? Губляецца сэнс, высокае грамадскае прызначэнне літаратуры, якая павінна даходзіць да сэрцаў самых шырокіх мас, абуджаць іх, узвышаць, весці за сабою. Для тых жа, хто вельмі ўжо развіты, «жыве напружаным інтэлектуальным жыццём», для такіх чытачоў лепш за ўсё ствараць не асобныя літаратурныя творы, а спецыяльныя навуковыя трактаты. Хай на іх яны адточваюць свой дасканалы розум. У мастацтва — іншыя мэты і задачы! І дзякуй богу, што геніі нашай літаратуры не дзялілі сваіх чытачоў на эліту і дэмас, а тварылі па законах мастацтва, і таму творы іх цікавыя для ўсіх — і для юнага школьніка, і для ўмудронага вопытам акадэміка. Менавіта ў гэтай даступнасці пры ўсёй глыбіні зместу і заключаецца галоўны сакрэт іх вечнай цікавасці, іх неўміручасці.

●

Многа ёсць розных тэорый адносна таго, якія крытэрыі найбольш прыдатныя пры ацэнцы мастацкага твора. Кожная з гэтых тэорый па-свойму цікавая і слушная. Але, напэўна, самы дакладны і самы надзейны крытэрый — уласныя пачуцці. Калі пасля той альбо іншай кнігі, таго альбо іншага фільма душа расчулена і раскрыта насустрач дабру і святлу, сэрца ўсхвалявана і звернута да ўзвышанага і высакароднага, калі хочацца быць лепшым, дабрэйшым, хочацца любіць, смяяцца, плакаць, — можна не сумнявацца, што ў гэтым выпадку мы маем справу з творам мастацтва.

●

Раман моднага зарубежнага пісьменніка. Раман, дзе пераплялося ўсё: рэальнае і фантастычнае, праўдападобнае і неверагоднае, здаровае, нармальнае светаўспрыманне і хваравітае, шызафрэнічна-бязглуздае, высокае, светлае і агіднае, натуралістычна-пачварнае...

Працерабіцца да якога-небудзь сэнсу скрозь гэтыя дзікія фармалістычныя джунглі амаль немагчыма. Навошта ж, каму неабходны такія «творы», якія трэба разглядаць як рэбусы, дзе ўсё пастаўлена з ног на галаву?

Кажуць, што гэта — пошук, эксперымент, які пашырае выяўленчыя магчымасці мастацтва. Магчыма. Справа, аднак, не ў гэтым. Не ў тым, што мастацтву проціпаказаны пошук, наватарства. Якраз наадварот. Мастацтва — бадай, адзіная форма духоўнага жыцця, дзе любы паўтор, любое капіраванне катэгарычна недапушчальныя. Права на жыццё мае толькі тое, што заключае ў сабе нешта новае, смелае, пасапраўднаму арыгінальнае.

Разам з тым наватарства павінна мець свае разумныя межы, не пераступаць граніцу, за якой мастацтва канчаецца і пачынаецца антымастацтва. Таму далёка не ўсякі эксперы-

# СПАДЗЯВАННЕ НА ПЛЁН

(Заканчэнне
Пачатак на стар. 5).

недакладнае ўяўленне аб спецыфіцы тае ці іншае мовы. Прыкладам, у нас на Беларусі, арыентуючыся на рускія пераклады, аўтаматычна пішуць Тамсаарэ, Туулік, хоць гэта і няправільна (у эстонскай мове «аа» — адзін доўгі галосны гук, у беларускай «аа» — два галосныя).

**— У прынцыпе да перакладаў праз трэцюю мову трэба ставіцца адмоўна. Ёсць такі жанр, дзе такі пераклад увогуле недапушчальны, гэты жанр — паэзія. Відаць, няма патрэбы падрабязна тлумачыць прычыну, я толькі скарыстаю нагоду і працытую нашага літаратурнага волата Фрыдэбэрта Тугласа. У лісце да аднаго з перакладчыкаў ягоных твораў ён піша: «У перакладзе пэўная дэталь можа неяк вытыркнуцца, быццам агаліцца, іншыя ж цалкам рэтушуюцца. Асабліва церпіць рытмічны бок твора». Можна працягнуць гэтую думку: ужо на «першай ступені» перакладу ўзнікаюць разыходжанні, на «другой ступені» гэтыя разыходжанні непазбежна павялічваюцца. Але нам, на жаль, прыходзіцца пагаджацца з тым, што без падвойных перакладаў не абысціся. Калі і папраўдзе няма знаўцы нейкай рэдкай, экзатычнай мовы, а з тым ці іншым творам трэба азнаёміць чытача, прыходзіцца згаджацца на пераклад з мовы-пасрэдніцы. У гэтым выпадку, аднак, трэба быць пэўным, што першы пераклад зроблены добра, што ў ім няма перакручванняў і што рэдактар не ўчыніў над ім гвалту... У нас цяпер паўсюдна прыжываецца прынцып непасрэднага перакладу, але ўсё яшчэ выходзяць і падвойныя пераклады, і не трэба гэта асуджаць. Так, у нас няма знаўцы арабскай мовы, але нядаўна выйшлі два тамы казак «Тысячы і адной ночы» ў перакладзе праз трэцюю мову, дык добра, што хоць такое ёсць. Дамо ўсё ж нейкае права на жыццё падвойнаму перакладу, але хай ён застанецца толькі на самы крайні выпадак. Зblіжае мова-пасрэдніца ці раздзяляе народы! Гэта ўжо больш складанае пытанне. Вядома ж, мова-пасрэдніца здымае неабходнасць ведання арыгінальных моў, і, ставячыся да справы павярхоўна, гэтым можна задаволіцца, хоць бы дзеля зручнасці. Пытанне, відаць, у тым, што пры існаванні мовы-пасрэдніцы не трэба адмаўляць неабходнасць вывучэння арыгінальнай мовы. Зносіны праз мову-пасрэдніцу — гэта толькі першая ступень двухбаковых сувязей, калі ж мы хочам узняцца вышэй, лепш зразумець адзін аднаго, тады неабходна вучыць мовы. Бо склад душ народа, яго псіхіка праяўляюцца заўсёды ў яго роднай мове. Родная мова — душа народа. Ніякая іншая яе не заменіць.**

— З гэтым можна з усёй душой пагадзіцца. Нарэшце, апошняе пытанне. Набліжаюцца Дні беларускай літаратуры ў Эстоніі. Як, на вашу думку, можна выкарыстаць гэтую падзею для паляпшэння стану ўзаемнага перакладу, для ўстанаўлення нейкага супрацоўніцтва ў галіне падрыхтоўкі перакладчыцкіх кадраў, абмену інфармацыяй, літаратурай і г. д.?

**— Увесь мой вопыт паказвае, што адпаведныя дэкады літаратуры і мастацтва шмат карысці не прыносяць, прынамсі для ажыўлення літаратурных сувязей. Яны заўсёды насілі хутчэй парадны характар. Тон задавалі канцэрты, тэатр, урачыстыя сходы, пасяджэнні і г. д., і г. д. Канкрэтных вынікаў заўсёды было мала. Дый да таго ж літаратура пад час такіх мерапрыемстваў заўсёды заставалася на заднім плане. Не верыцца, каб гэтым разам справы выглядалі інакш. Калі б у кіраўнікоў з'явілася жаданне выкарыстаць гэтыя дні на нешта больш сур'ёзнае, дасягнуць нечага канструктыўнага, дык варта было б правесці нараду для вырашэння выключна практычных пытанняў. На парадку дня такой нарады маглі б стаць: 1) наладжванне ўзаемнай інфармацыі (з нецярпеннем чакаем з'яўлення на Беларусі перыядычнай брашуры аб літаратурных навінках!) і наладжванне адпаведнай працы ў абодвух Саюзах пісьменнікаў, прычым праца гэтая мусіць быць забяспечана матэрыяльна; 2) павелічэнне даступнасці літаратуры, паляпшэнне працы спецыяльных кнігарань у гэтай галіне; 3) накіраванне студэнтаў з Беларускага універсітэта ў Тарту і з Тартускага універсітэта ў Мінск для вывучэння мовы; 4) вызначэнне стыпендыі для перакладчыкаў, што доўгатэрмінова знаходзяцца ў іншых саюзных рэспубліках. Гэтых пытанняў можа быць і болей.**

— Дзякуй вам, паважаны Олеў Адавіч. Будзем спадзявацца, што справа, якая так нас хвалюе, атрымае новы імпульс.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Казімір КАМЕЙША**



### *Пярэймы дня*

Доўгім быў дзень у мяне і марудным.
Сонца ўзышло разам з песняй
з-пад Рудні.
Бацька касу накляпаў
каля ганку,
Востра касу адцягнуў,
як маланку.
А брыгадзір усё лаяў пагоду:
— Кіну я ўсё і паеду на воды...
З гэтага нават смяяліся пеўні.
Мелі мы час ды не мелі
цярпення.
Жаўранкі ў небе журботна
трымцелі,
Дрэвы жывыя расці не хацелі.
Сонейка ўзыдзе —
стаіць каля Рудні.
Ранні быў час.
Дзень быў марудны.
Як жа раптоўна яно
перад поўднем
Колы крутнула
І ахнуў я: — Позна!
Сцежкі мае пачалі крыжавацца,
Дрэвы, як спіцы у коле, мігцяцца.
Кроны ў бары не растуць, а страляюць.
Сам ты не той ды і пушча не тая.
Днём ты назваўся,
а сам ёсць пагоня.
Холад імпэту выстуджвае скроні.
Дзе твая, сонца,
былая праменнасць?
Дзень быў марудным,
Дзень стаў імгненным.
Вунь ён на ўрочышчы з назваю «Галя»
Каля стагоў налібоцкіх мільгае.
Стаў я палохацца страшнага гону,
Быццам бягу,
даганяю вагон свой.
Нават з зязюляй цяпер не жартую:
Раптам нахлусіць ці год пашкадуе.
Што ж я бягу і збіваю калені,
Вусны кусаючы,
ломячы цені?
Стогнуць дарог маіх чорныя вены.
Поўныя грудзі вясны набіраю —
Толькі памылку чыюсь паўтараю.
Я праз лаўжы і па суччы бягу.
Я — пастушок,
я кароў пераймаю,
Толькі свой дзень пераняць не магу.
Так.
Не прыспешваў сябе, а дарэмна,
Вось і бягу цяпер дню на пярэймы
Хлопцы сустрэнуць на ростанях
часам.
Вёсен у іх, як і песень,
з запасам.
Просяць у круг свой,
дзе цёпла і ветру.
Ранак у іх.
За гарамі іх вечар.
Хлопцы, даруйце, я часу не маю —
Дзень пераймаю,
Дзень пераймаю...

### *На канцэрце ВІА*

Вясёлыя барадачы,
Сагнуты саксафонна шыі.
Хацеў я ў цішыню ўцячы
Ад песні той, што аглушыла.

Але не ўцёк. Як уцячы —
Стараліся барадачы?!

Дзве сілы грому і агню
Сышліся тут у гнеўнай сіле.
У дзве рукі тут цішыню
Па галаве адчайна білі.

Не сум някрасаўскі, о не,
Ды не магу, калі я чую,
Як нехта з цішынёй мяне
У пушчы роднае карчуе.

## ВІНШУЕМ

# *Алесю ДЗЯТЛАВУ — 50*



Пісьменніку Алесю Дзятлаву 3 чэрвеня спаўняецца 50 год. У віншавальным адрасе праўлення СП БССР гаворыцца:

**«Дарагі Алесь Мікалаевіч!**

**Шчыра віншуем Вас, вядомага беларускага празаіка, з нагоды адметнай з'явы ў жыцці — 50-годдзя з дня нараджэння.**

**Нарадзіліся Вы 3 чэрвеня 1936 года ў вёсцы Туркі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўніка. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна ў 1959 годзе працавалі ў глыбоцкай раённай газеце «Сцяг камунізму», у рэспубліканскіх — «Чырвонай змене», а пасля ў «Звяздзе», былі членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». З 1980 года працуеце ў часопісе «Родная прырода», аддаючы шмат сіл і ўвагі адной з надзённых праблем сучаснасці — абароне экалогіі зямлі.**

**Вы — член КПСС.**

**Сваё першае апавяданне надрукавалі ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1970 годзе. З таго часу Вашы аповесці і апавяданні часта з'яўляюцца на старонках перыёдыкі. Яны звяртаюць на сябе ўвагу тым, што ўзнімаюць важныя маральна-этычныя пытанні нашых дзён, у цэнтры іх — чалавек як асоба, якому да ўсяго справа, ён — актыўны член грамадства, а не пасіўны назіральнік. Пішаце Вы пра сучасную вёску, усё больш увагі скіроўваеце да гарадской тэматыкі.**

**За час літаратурнай дзейнасці выйшлі кнігі прозы «Росы на поплаве», «Белы месяц сакавік», «Сляды», цёпла сустрэтыя чытачом і крытыкай.**

**Зычым Вам, дарагі Алесь Мікалаевіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых плённых здабыткаў».**

«Літаратура і мастацтва» далучаецца да віншавання.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ**




НА ДОСВІТКУ, калі толькі-толькі заружавеў край неба на ўсходзе і буйная раса ўсхапілася на някошаным лузе, яны сабраліся каля калгаснага гаража — восем мужчын прызыўнога ўзросту. Маладзейшых пабралі ў першыя дні вайны, а іх, каму пад сорак ці болей, не паспелі мабілізаваць — нямецкія самалёты разбамбілі райцэнтр. Казалі, што фугаска трапіла ў будынак ваенкамата, і ўсе там загінулі. А мінулай ноччу пазванілі ў сельсавет, загадалі ўсім мужчынам прызыўнога ўзросту ехаць на станцыю Вязень, за трыццаць кіламетраў ад іхніх Даманавіч.

Яны моўчкі стаялі цеснай купкай на грэблі каля мастка цераз рачулку, чакалі, пакуль Грышка Жарнавец завядзе старую калгасную палутарку, прагрэе матор перад дарогай.

— Пазнавата выбіраемся, трэба было раней, — парушыў маўчанне Гацура, калгасны брыгадзір, высокі, прыгорблены, ужо сіваваты мужчына, нягледзячы на свае сорак гадоў. — Наляцяць яшчэ.

— І ўдзень бамбяць, і поначы не сціхаюць, — падтрымаў яго рахунказод Аношка. — І лётаюць, халера на іх, нізка.

— А дзе нашы самалёты? — не вытрымаў пажылы калгаснік Белавус.

— Не кажы лішняе, Антон, — прыкрыкнуў на яго Гацура, скасавурыўшыся на ўчастковага Мазура, які стаяў каля адчыненых дзвярэй гаража і перамаўляўся з Жарнаўцом. — Пакажам, хто вышэй і далей... Ну, як там, Пятровіч? — гукнуў у шырокую спіну ўчастковага. — Завядзецца наша таратайка-балалайка?

Мазур павярнуўся да мужчын, каржакаваты, наліты пругкай сілай, папраўіў кабур, які вісеў на шырокім рамяні, абцягнуў доўгую, амаль да каленяў гімнасцёрку і толькі тады са строгасцю ў голасе, упэўнена, быццам ён ведае штосьці такое, чаго не ведаюць калгаснікі, адказаў:

— Завядзецца, як жа. Паспеем, паспеем, іх сюды не пусцяць.

Мужчыны маўчалі, бо амаль кожны ў душы спадзяваўся, што вось-вось немца спыняць, і Мазур быццам выказаў тое, пра што ніхто не асмельваўся ўголас сказаць. Толькі Антон Белавус, пыхкаючы тоўстай, мо з палец самакруткай, не вытрымаў, з'едліва спытаў:

— Мо ты спыніш немца сваёй пукалкай, Кузьма?

Спытаў дабрадушна, не тоячы за душой злой думкі, але ўчастковы раптам увесь напружыўся, усмешку бы ветрам здзьмула з яго твару, і вочы звузіліся, ён пругкім крокам падбег да мужчын, адрывістым, рэзкім голасам пагрозліва абсек Антона:

— Балбочаш лішняе, Белавус. Ліпавыя разгаворчыкі. І пукалка згадзіцца, калі спатрэбіцца.

— Ладна, Пятровіч, я ж шуцейна.

— Ладна будзе потым, а цяпер вайна, і панікаваць не дазволю. Ясна ўсім? Унь сіла якая ў нас, праз месяц будзем чай у Берліне піць.

— Піць то піць, ета няблага было б, але трэба паперш з немца пых збіць, — Антон, як заўсёды, не мог дазволіць, каб апошняе слова заставалася за яго праціўнікам.

— І саб'ём, і пагонім, — запальчыва, але ўжо крыху мякчэй сказаў участковы, зразумеўшы, што Антон заўсёды быў такі — востры на язык, няўступчывы, але чэсны, цягавіты мужчына. — Не, Расею не паб'юць, ніколі не паб'е немец.

Толькі адзін чалавек не ўступаў у размову — дырэктар мясцовай сямігодкі Рудзеня, яшчэ малады мужчына, падцягнуты, стройны. Ён разумеў, што здарылася тое, чаго ніхто не хацеў, і барацьба будзе доўгай, упартай і крывавай. Гэта ён ведаў пэўна. Яго непакоіла толькі тая акалічнасць, што ён, здаровы, моцны мужчына, афіцэр запасу, танкіст, знаходзіцца тут, а не на фронце, і турбавала толькі адна думка — як дабрацца да Вязеня.

— Вось ты скажы, Мікалай Сцяпанавіч, — Мазур звярнуўся да Рудзені. — Скажы ім, растлумач момант.

— Што казаць? Цяжка, незразумела, але мы адступаем, — развażліва, глухаватым голасам адказаў Рудзеня. — Але я думаю, што спыняць фашыстаў. Не ведаю дзе, а спыняць, пагоняць назад. Цяпер, хлопцы, не да спрэчак.

Усе зразумелі, што Рудзеня гэтым самым паставіў на месца Мазура з яго нечаканай злосцю і рашучым аптымізмам, і ў той жа час хацеў папярэдзіць іншыя, больш небяспечныя пытанні, бо цяпер не месца разважаць пра тое, аб чым ніхто толкам не ведае. Моўчкі супіўся ўбаку Мазур, пахмурна курылі мужчыны, і толькі адзін Грышка Жарнавец быў вясёлы, бесклапотны, упэўнены ў сабе. Матроская зухаватасць жыла ў яго душы. І марыў калгасны шафёр зноў трапіць на флот, змяніць камбінезон на бушлат, стаць каля сваёй гарматы галоўнага калібру.

— Давай, заводзь! — Мазур гукнуў у адчыненыя дзверы гаража. — Ехаць трэба.

— Счас, — весела адказаў Жарнавец. — Масла мяняў. Счас паедзем.

У гаражы глуха затахкаў матор, сівы дым папоўз у адчыненыя дзверы, і палутарка, валюхнуўшыся коламі на бетонным парозе, заднім ходам паволі выкацілася на грэбельку.

— Скакайце, хлопцы, у машыну, — весела прапанаваў Грышка, выступіўшы на падножку і зазіраючы ў кузаў. — Сена б падкінуць, мулка будзе ехаць.

Грышка ўсмешліва назіраў, як лезлі ў кузаў яго пасажыры, і калі ўсе паселі, заклапочана папытаў, звяртаючыся да Мазура:

— Значыць, на Вязень курс?

— Да Вязеня, а там будзе ясна, — цвёрда адказаў участковы. — Ну, паехалі.

Палутарка з ходу ўзяла скорасць — гэтак Грышка любіў ездзіць. Праехалі маўклівай вуліцай вёскі.

— Нясецца на злом галавы, — незадаволена буркнуў заўсёды маўклівы і ваўкаваты Пятро Марчук, падвозчык кармоў на ферме.

— Ды, дзядзька, адна любата, як ездзіць Грышка, — весела запярэчыў яму Жэнька Галуза, бадай што, самы малады сярод прысутных. — Ты прывык на сваім Гнядым цёпкацца, то сапраўднай язды не разумееш.

Марчук зірнуў на яго, але нічога не адказаў, унурыўшыся, сядзеў каля борта.

Праехаўшы па жэрдках, якія ляжалі замест мастка на ўездзе на гравійку, палутарка пакацілася хутчэй. Стрэчны вецер ірвануўся ад кабіны, узвіхрываў труху ў кузаве.

За ваколіцай Аношка пастукаў па версе кабіны, і калі машына спынілася, борзда саскочыў з кузава, за ім цераз задні борт сігануў Галуза — згледзелі на ўзбочыне, каля лесу, свежую капу сена. Удвух зграблі з самага верху добры абярэмак і кінулі за борт у самую сярэдзіну кузава. Галуза падсадзіў Аношку, а сам спрытна ўскочыў следам, гэпнуўся жыватом на мяккі подсціл.

Колькі хвілін мужчыны сядзелі моўчкі.

— Чалавек адзін казаў мне, — глухавата пачаў Гацура, — з Брэста дапяў да нас, у гарадку стрэў яго. Што бытта немец ужэ ля самага Мінска. А калі праўду кажуць, што Слуцак пад ім, то, мяркую, яму рукой падаць да станцыі — там брукаванка. Хоць і вузкаватая — пры цары шчэ насыпалі, але для танка ў самы раз...

Кіламетраў праз дзесяць лес з аднаго боку саступіў убок, каля гравійкі разлёгся роўны луг, напалову адсюль, ад дарогі, скошаны. Пракосы ўжо зрудзелі, аселі, няроўнымі палоскамі ляжалі на зялёнай атаве, якая пачала адрастаць.

— Віш, дабро прападае, — Белавус, які насуплена сядзеў у кутку, каля кабіны, зварухнуўся, зазірнуў паверх кузава. — Не да етага цяпер людзям.

І змоўк, паківаў галавой, адчужана глядзеў паўзверх кузава назад, дзе бегла бясконцая жаўтлявая паласа дарогі. Да станцыі засталося кіламетраў дваццаць.

— Калі б паспець, паязды павінны хадзіць, — Рудзеня сядзеў, прыхінуўшыся спіной да задняга борта.

На яго моўчкі паглядзелі, бо ў кожнага, хто сядзеў у кузаве, былі свае думкі, турботы: бытта нейкая повязь, якая звязвала людзей у мірным часе, раптоўна парвалася, і ў гэтым траскім кузаве нацята вісела трывожлівая сціхота, якая ўзнікае ад блізкай небяспекі і невядомасці. Толькі вецер віскуцеў паўзверх кабіны, халадзіў сцярожліва-пахмурныя твары людзей. Здавалася, трывожлівае зняменне павісла над усім абшарам, і нават гарачкаватае сонца, якое выкацілася

Не, я сыду з тваіх вачэй,
Ты, музыка,
мяне здзівіла.
Прасілі музыкі яшчэ,

«Viwat!» — крычалі таму ВІА.
Аж сам музыка успацеў,
Няўцямна выцірае цемя.
Тады я выйшаў з гэтых сцен,
А на двары ўсё тыя ж сцены.
Усё грукоча — будзь здароў!
Зямля ад груку вось-вось
трэсне.
І ёсць ансамблі песняроў,
А сэрца плача, просіць песні.

## *Хлапчук 1944 года*

**(Паводле фотаздымка)**

Хай сонца гляне і не згасне —
Снапок праменны развяжыце!
А ты маўчыш,
маленькі, ясны,
Як васілёк у жыце.
Салдату вусны не астудзіць
З варонкі
горкі той напітак.
Балець вачам і сэрцу будзе
Той васілёк,
слязой паліты.

●

Цяплінку першых каташкоў,
Чуць прыцярушаных сняжком,
Нясу табе у хату,
Нясу табе як свята.
На подых роднага цяпла
Прачнецца у вуллі пчала,
І залацісты певень
Памые ў сонцы пер'е.
І кубачкі тваіх слядоў
Лагчынка наліе вадой.
Вады, як выпіць пеўню,
Вады, як вымыць пер'е.
Я, можа, рана, мой ты свет,
Шукаю веснавых прыкмет
На снезе,
у вачах,
на дрэвах,—
Так трэба.

Сціскаў нявер'ем холад нас
Маўкліва і зацята.
Хай нават спозніцца вясна,
Ды будзе раннім свята.

●

Калі значэ і сябры заснуць,
І застанемся з вершам мы сам-насам,
Той трэці прыйдзе і дыхне ў спіну
Дыханнем падступаючага часу.

Не з намі ён,
ды блізка ўжо ад нас.
Нязнаны ён,
ды будзе хутка знаны.
І будзе мой пакой аж давідна
Дыханнем тым, як лодка, разгайданы.

Ён выйдзе з-за спіны і гляне ў твар,
Як гаспадар глядзіць у вочы госцю.
Ён так дыхне,
аж запяе трава,
І лісце моцна схопіцца за голле.

Я, можа быць, радка не дацягну,
У нас нічога з вершам не выходзіць.
Ён дыхае і дыхае ў спіну,
І крок, і стрэлкі ўперад
пераводзіць.

Ён не апіша, не прыбавіць год,
А ўсё ж, а ўсё ж прыспешыць
ён спатканне.
Ён дыхае,
Хай будзе у яго
Спакойнае і роўнае дыханне!

●

І сад той, і дом не пазнаць.
Навошта іх час так з'іначыў.
Адгадвае маці па снах
Пра сына няўдачы.

І ў свет,
дзе трывогі клубком,
Дзе страшна за свет той бывае,
З усіх чатырох акон
Па промню яна пасылае.

Няхай жа ляцяць,
берагуць,
З усіх чатырох няхай свецяць.
—Усё, што магу-не магу,
Без вас не магу толькі, дзеці...

Высокая радасць яе.
Не схоліш—
ля неба снуе.
А смутак настолькі зямны,
Што нават не хлусяць ёй сны.

---

над сцяной лесу, не радавала.

— Паспеем, не можа быць, каб не паспелі, — азваўся Гацура, які даўгалыга ўзвышаўся ў кузаве, хоць, як усе, сядзеў. — А не, дык лясамі пойдзем да сваіх, балотамі.

Гэтыя словы бытта зварухнулі мужчын, бо кожны з іх у душы ўсё ж думаў пра тое самае.

— Штосьці прыдумаем, — падтрымаў Гацуру Рудзеня. — Быць таго не можа, каб не прарваліся. Немец, відаць, дарогамі прэ пакуль, паніку наводзіць.

Размова неяк сама сабой сціхла, бо сказана было ўсё, што трэба было сказаць. Палутарка раптам крута вільнула да ўзбочыны дарогі, рэзка тармазнула. Мужчыны трывожліва павыцягвалі шыі — хто ўзіраўся ў неба, хто ўзбоч дарогі, а Гацура борздзенька падхапіўся, зіркнуў наперад.

— Ну, як, хлопцы? — на падножку выступіў Грышка. — Пацясніцеся, Мазур хоча да вас перабрацца, горача яму ў кабіне.

— Пamaжы, бо не ўзлезе, — падміргнуў Жарнаўцу Галуза. — Дзяга шчэ трэсне...

Жэнька змоўк, бо з кабіны хуценька выціснуўся ўчастковы, надзіва лёгка перамахнуў цераз борт у кузаў, выцер даланёй пот з ілба.

— Ух як добра! Там і заснуць можна, а ў вас курорт. — Ну, які прагноз, хлопцы? Вы тут усе разам, а я адзін нудзіўся.

Усе здзівіліся, што Мазур, пахмурны і негаваркі раніцай, раптам разгаварыўся, ды яшчэ і спрабуе жартаваць.

— Ат, Кузьма, не кажы,— махнуў рукой Белавус. — Прагноз—як воз, ушыешся ў гразь, то і не вылазь.

Але Мазур не звярнуў увагі на гэтыя словы, выцягнуў з кішэні галіфэ насоўку, зняў фуражку і выцер потную незагарэлую лысіну.

— Ну, давай, чаго стаім,— гукнуў ён Жарнаўцу, які нечага корпаўся ў маторы, адкінуўшы на адзін бок капот.

— Грэецца, халера на яе,— глуха, з-пад капота, азваўся Грышка. — Хвілін пяць пастаім і паедзем. Паспеем, ужо нямнога засталося. Будзь спок, давязу.

Мазур незадаволена пакруціў шыяй, бо ўсё-такі за старшага тут ён, участковы Даманавіцкага сельсавета, пры выкананні сваіх абавязкаў, з пісталетам ТТ, які атрымаў незадоўга да вайны замест старога сямізараднага нагана. І новенькі жоўты кабур, і форма, хоць стараватая, але сядзіць на ім, як улітая, і хромавыя, пашытыя на заказ боты, і ўся яго грузная, налітая сілай пастава сведчылі, што ён — прадстаўнік улады і пярэчыць яму нельга. І ён напружана, з незадаволеным выглядам чакаў, пакуль Грышка, ляпаючы бляхай капота, лаяў на чым свет стаіць сваю разладжаную палутарку. І толькі калі ён сеў у кабіну, уключыў хуткасць і машына панеслася па гравійцы, Мазур, здавалася, супакоіўся.

— Я, хлопцы, сам такога не чакаў, — звяртаючыся да Рудзені, пачаў ён гаварыць. — Усяго чакаў, толькі не гэтага. І як не маглі яго на граніцы спыніць і паперці? Але папруць. Мо ўжо гоняць немца, а мы тут трасёмся... І самалётаў іхніх сёння не відаць.

Усе моўчкі слухалі яго, толькі Белавус ад кабіны, з-за спіны ўчастковага, уставіў сваё слова:

— Не бядуй, Кузьма, што-небудзь і табе застанецца. Пастраляеш шчэ. Толькі процiў танка не ведаю як...

Мазур павярнуўся да яго ўсім тулавам, нездаволена пахітаў галавой, але нічога не адказаў: ён лічыў, што раніцай, каля гаража, усё, што трэба было, Белавусу сказана, і ўступаць у пустую спрэчку з гэтым вясковым балбатуном прадстаўніку ўлады не варта.

Лявей, нябачныя за сцяной лесу, праляцелі самалёты; іх надрыўны трывожлівы гул працінаў усё наваколле. Мужчыны, як адзін, глядзелі ў той бок. Чые гэта самалёты, ніхто ў машыне не ведаў, але кожнаму хацелася, каб гэта былі нашы.

— Ці немец, ці наш — не разбярэш,— буркнуў Белавус.

— Нашы, канечне, нашы! — запальчыва-радасна ўсклікнуў Мазур. — Не, нямецкіх сёння не чуваць.

Ён устаў з сена, на якім сядзеў пасярод кузава, прабраўся да кабіны, выцягнуў карогнную шыю, узіраўся ўгору. Неўзабаве, як толькі прыціхла гудзенне, наперадзе, за лесам, куды кіравала гравійка, пачуліся глухія, быццам з-пад зямлі, выбухі. Мужчыны як па камандзе паўскоквалі на ногі, з трывожлівым неспакоем узіраліся ў бляклае неба. А над лесам, наперадзе машыны, выцягваліся густыя дымныя клубы.

— Дык што, мо Вязень гарыць? — разгублена прамовіў Аношка. — Акурат там станцыя...

— Адставіць разгаворчыкі! — прыкрыкнуў на яго Мазур. — Ніякай панікі каб не...

Ён не паспеў дагаварыць, змоўк на паўслове, хутка павярнуў галаву направа, адкуль ашалела, ажно звінела ў вушах, насоўвалася нешта аграмаднае і грукатлівае. З лугавога боку, з-за нізкіх крывых алешын як вываліўся жаўтабрухі двухматорны самалёт з крыжамі на крылах. Грышка рвануў палутарку да кювета, спыніўся, высунуў галаву з кабіны. Мужчыны не паспелі павыскокваць з кузава, пападалі, дзе хто стаяў. Толькі адзін Мазур, хуценька прысеўшы, сачыў за самалётам, паварочваючы за ім голаў. Самалёт павярнуўся над гравійкай, крута пайшоў уверх, у напрамку да станцыі.

Грышка вылез з кабіны, заклапочана чухаў патыліцу.

— Героі, трэба было ў кювет скакаць,— твар у Жарнаўца нязвыкла клопатны. — Процi самалёта мы ўсе мухі. І адкуль ён вывернуўся, гад?

— Ды дзе там паспееш? — пахмурна адказаў яму Белавус. — Ніхто ж не думаў, што етакая аграмадзіна знізіцца.

— Вось гэта махіна,— Галуза бледны, без шапкі, тупаў каля машыны — паспеў-такі ў суматосе сігануць за борт. — Я думаў, што на нас падае, падбіты.

— Упадзе гэтакі, чакай, — Гацура злосна сплюнуў. — Сволач, разварот, пэўна, над намі зрабіў.

У гэтым тлуме ўсе забыліся на Мазура. Ён моўчкі вылез з кузава, дрыжачымі пальцамі вывуджваў з пачка папяросу і ніяк не мог падчапіць яе. Нарэшце выцягнуў, спяшаючыся, прыпаліў, зацягнуўся дымам, узіраўся ў неба, нізка насунуўшы на вочы брыль фуражкі, круціў тоўстай чырвонай шыяй.

— Н-да, пятрушка,— бытта сам з сабой, клопатна гаварыў ён. — Н-да...

— Ага, Кузьма, паперш чым чай піць у Берліне, трэба жвір пузам пагладзіць,— пыхкаючы тоўстай самакруткай, пасміхаўся ў вусы Антон.

— Ды кінь ты, Антон,— ужо без злосці, устрывожаны нечаканым з'яўленнем самалёта, але яшчэ з упэўненасцю ў голасе, прамовіў Мазур. — Дык што будзем рабіць?

Яму ніхто не адказаў, усе пахмурна супіліся, але кожны з мужчын разумеў, што назад ходу няма, трэба ехаць на станцыю. Самалёты — гэта яшчэ не танкі, Вязень наш, і там будзе відно, што рабіць далей.

Мазур канчаткова авалодаў сабой, дакурыў папяросу, рашуча палез у кабіну.

— Вось што, хлопцы,— Мазур высунуў галаву з кабіны. — Калі самалёты, стукайце па версе. І назад глядзіце, адсюль не відно.

Жарнавец гнаў машыну, як ашалелы, ззаду пыл клубіўся густой хмарай. Пераскочылі нешырокі драўляны мосцік з нізкімі парэнчамі, лес пакрысе адступаў ад дарогі, але з левага боку раслі густыя прысады.

Стрэл пачулі ўсе адразу — быццам хто з усяе сілы ўдарыў малатком па жалезным лісце. Снарад-балванка ўзняў пыл перад самым радыятарам машыны, сцёбнуў па прыдарожным кустоўі. Другі стрэл ніхто не пачуў — метраў за дзесяць ззаду на дарозе ўскінулася ўгору аранжава-дымнае полымя і грымнуў выбух.

— Танкі! — пранізліва-спалохана закрычаў Галуза, першы ўгледзеўшы сваімі маладымі вачамі небяспеку. — Вунь, за кустамі, — тыкаў ён рукой направа, у бок палявой дарогі, якая наперадзе перасякала гравійку.

Тры чорныя танкі нерухома стаялі за кустоўем, на палявой дарозе.

— Стой! — нема закрычаў Гацура. Але Грышка ўжо прыкмеціў танкі і рэзка затармазіў, з'ехаўшы пярэднім левым колам у неглыбокі кювет. Немцы чамусьці не стралялі: мо, меркавалі, што захопяць і палутарку, і людзей.

Першы скочыў у кювет Гацура, перавярнуўся і папоўз у густыя кусты. За ім з кузава цераз нахілены борт няўклюдна спаўзлі на дол Аношка і Марчук, выхапіўся Рудзеня, а Жэнька Галуза выскачыў на дарогу цераз задні борт. Толькі Мазур, борзда выціснуўшыся, з кабіны, угнуўшыся, бег на той бок дарогі, на хаду, спяшаючыся, вышморгваў з кабура пісталет, які ніяк не паддаваўся. З пярэдняга танка ўзбліснула чырванаватай трасай кулямётная чарга, і Мазур, быццам спатыкнуўшыся, упаў на цеплаваты пясок дарогі. А палутарка раптам узраўла маторам, з натугай выпаўзла з кювета, рэзка набрала хуткасць: Грышка, адчайная галава, задумаў выратаваць машыну, ускочыць у густы малады ельнік, што невысокай сцяной стаяў за якіх дзвесце метраў наперадзе. Рудзеня, які ляжаў у кювеце, прыўзняў галаву, хуткім позіркам акінуў і танкі, і палутарку, якая імчала па гравійцы, і маланкава зразумеў, што Грышка не дабярэцца да ляска. Пярэдні танк, узроўшы маторам, выпаўз з-за куста, прыпыніўся — і ў той жа момант выбухнула пад пярэднімі коламі палутаркі, яна нязграбна падскочыла, нахілілася і звалілася ў кювет. Другі снарад пранізаў яе навылёт.

Рудзеня ліхаманкава азірнуўся — вакол нікога, і ён, згледзеўшы, што танкі, равучы маторамі, рушылі да дарогі, і абганяючы іх, выскачылі з кустоўя мо з дзесятак матацыклаў з аўтаматчыкамі, выпаўз з выратавальнага кювета, скочыў у пасадку і угнуўшыся, пабег да лесу, да якога было крокаў пяцьдзесят. Кулямётная чарга звонка джвагнула поверху, і Рудзеня пляснуўся ў яшчэ макраватую ад расы траву, і ўжо не чуючы нічога на свеце, папоўз, як вуж, высільваючыся знікнуць як мага далей ад гэтага страшнага месца. Яго, відаць, заўважылі нямецкія танкісты, бо другая чарга, карацейшая, прыцэльная, шархатліва-пагрозліва хвасянула над самай галавой, збіўшы галінкі з кустоў. Ён запознена тыцнуўся тварам у траву, з адчаем падумаў, што не хопіць сіл дабегчы да лесу, і вось-вось сюды ўскоцяцца нямецкія матацыклы, і тады не ўратуешся — кулі дагоняць. Але нейкая сіла жыла ў ім, якая перасіліла і страх, і немач, і смерць. Рудзеня, ужо не зважаючы на траскатню кулямётаў, стрэлы гармат на дарозе, устаў ва ўвесь рост і кінуўся ў лес, задыхана, з ходу ўшыўся ў гушчэчу кустоў, усёй сваёй істотай адчуваючы, што ў кожнае імгненне яго пасячэ кулямётная чарга. І толькі тут, у сыраватым гушчарніку, ён адчуў, што не дагоняць, што ўратаваўся, але бег і бег наперад, не адчуваючы, як балюча хвошчуць па твары галінкі кустоў...

Танкі тым часам падпаўзлі да дарогі і з блізкай адлегласці бязлітасна, быццам на трэніроўцы, крэмзалі снарадамі палутарку, вадзіцель якой не падпарадкаваўся іх папераджальным стрэлам. Пярэдні танк наблізіўся да самай дарогі, запаволіў ход, валюхнуўшыся ў кювеце, выпаўз на гравійку, даў з кулямёта доўгую чаргу па лесе, куды пабеглі ўцекачы. Павярнуўся, з ходу ўдарыў палутарку, працягнуў яе па дарозе з дзесятак метраў, спыніўся. Зверху адкрыўся люк, высунуўся танкіст у чорным куртатым мундзірчыку, узмахнуў рукамі, і два другія танкі няўклюдна палезлі на гравійку. Ад скрыжавання, траскочучы маторамі, імчалі матацыклы. Пярэдні матацикліст рэзка затармазіў каля мёртвага Мазура, немец з каляскі нахіліўся, сарваў з рэменя кабур з пісталетам, які ўчастковы так і не паспеў выхапіць, кінуў у каляску сабе пад ногі. Перамовіўшыся аб нечым з танкістам, саскочыў з сядзення, не здымаючы з грудзей аўтамата, даў чаргу па шырокім лазовым кусце. Выцягнуў доўгую шыю, паўзіраўся і зноў павёў руляй сюд-туд па кусце, задаволена зарагатаў. Пасярод шырокага куста ляжаў Грышка Жарнавец — выбухам снарада яго кантузіла, выкінула з кабіны, і, моцна выцяўшыся, ён страціў прытомнасць; і вось цяпер гэты нясkладны худы немец дабіў яго...

Па той самай гравійцы, па якой толькі што ехала старая калгасная палутарка, у бок Даманавіч павярнуў нямецкі матарызаваны атрад. Наперадзе траскуча каціліся матацыклы, займаючы ўсю шырыню дарогі, а за імі, лязгаючы гусеніцамі, уздымаючы жаўтлявы густы пыл, пагрозліва грукацелі танкі. На пярэднім у адкрытым люку стаяў белабрысы танкіст-лейтэнант без шлема, спакойны, упэўнены ў тым, што тут, на гэтай зямлі, на якую ён ступіў толькі чатыры дні назад, робіць усё правільна і справядліва.

(Заканчэнне на стар. 12).

## НАШЫ ГОСЦІ

# ПОДЫХ ГІСТОРЫІ

**«Барбора Радзвілайтэ» Ю. ГРУШАСА ў пастаноўцы Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Літоўскай ССР**

Завяршаюцца мінскія гастролі тэатра з Вільнюса. Пасля шматгадовага перапынку мы зноў сустрэліся з цікавым творчым калектывам, які мае сваё аблічча, сваю стылістыку. Многіх, напэўна, прывабіла гастрольная афіша гасцей, — разнастайная, з выразным акцэнтам на сучасную драматургію, прадстаўленую п'есамі І. Грэкавай і П. Лунгіна, В. Мярэжкі, Э. Радзінскага і А. Якаўлева. Значнае месца ў рэпертуарных пошуках тэатра займаюць творы замежных аўтараў — Т. Уільямса, Д. Васермана, Е. Юрандота, а таксама класічная спадчына В. Шэкспіра і П. Кальдэрона.

Адчуваецца, што нашы госці дома выконваюць спецыфічныя функцыі, уласцівыя калектыву рускай драмы. Але на мінскай сцэне яны прадстаўлялі багатае на здабыткі сцэнічнае мастацтва братняй рэспублікі, — вось чаму з вялікай афішы Рускага тэатра Літоўскай ССР хочацца вылучыць спектакль «Барбора Радзвілайтэ».

Драматургія народнага пісьменніка Літвы Юозаса Грушаса заслужыла назву філасофскай. «У сваіх гістарычных п'есах Грушас праявіў сябе сапраўдным паэтам і мысліцелем сцэны. Сутыкненне чалавечнасці з бесчалавечнымі законамі і дагматычнымі сістэмамі феадальнага свету — асноўны канфлікт гістарычнай драматургіі Грушаса — набывае крылы філасофскай думкі. Маналогі сутыкаюцца ў бойцы праграмных ідэй. У вострых рэпліках персанажаў выяўляюцца адносіны да ўсёй сістэмы каштоўнасцей светабудовы», — піша вядомы літоўскі літаратуразнавец В. Кубілюс.

Усё гэта можна аднесці і да «Барборы Радзвілайтэ». Падзеі XVI стагоддзя трактуюцца сучасным пісьменнікам надзвычай своеасабліва. Яны — фон, на якім паказана барацьба чалавечага і антычалавечага пачаткаў. Таямніцы кракаўскага каралеўскага двара, сутычка інтарэсаў польскай кароны і Вялікага княства Літоўскага, лёс чалавека, яго пакуты — усё моцна сплялося ў п'есе, у якой чуваць водгулле ледзь не шэкспіраўскіх страсцей.

Глыбінёй лепшых эпізодаў спектакль вільнюсцаў адпавядае драматургічнай першакрыніцы. Пастаноўцы І. Пятрова ўласціва нетаропкая і размашыстая эпічнасць, якая падтрымліваецца лаканічнай, скупой на дэталі, але вельмі ёмістай сцэнаграфіяй А. Туркова. Няспешная атмасфера спектакля раз-пораз выбухае яркімі ўспышкамі характараў.

Так адбываецца амаль ва ўсіх сцэнах з удзелам Радзівілы Чарнабародага, у сустрэчы Сігізмунда-Аўгуста з каралевай Бонай, у эпізодзе, калі архіепіскап Дзяркоўскі дае згоду на каранацыю Барборы. Пластычная і выразная, нават з адценнем «акадэмізму» рэжысура задае тон, вызначае партытуру сцэнічнага твора. І там, дзе яна найбольш поўна ўвасоблена ў акцёрскіх работах, мы перажываем імгненні далучанасці да сапраўднага мастацтва.

Каралева Бона ў выкананні В. Міхайлінай нібыта выпраменьвае моц, знітаваную з каварствам. У сцэне размовы з сынам яна дэманструе поўны набор дэмагагічных фраз, выяўляе талент выдатнага дыпламата — і міжволі, але шчыра спачувае сыну.

Цікавы характар Радзвілы Чарнабародага (хоць часам і не пазбаўлены прасталінейнасці) стварыў А. Іназемцаў. Гэта цвярозы і жорсткі палітык, для якога інтарэсы роднай Літвы вышэй за ўсё. Дзеля дасягнення поспеху ў палітычнай барацьбе ён гатовы ахвяраваць сястрой.

Барбора Радзвілайтэ ў выкананні В. Матавілавай — стрыманая, мяккая. Яна кахае — і лічыць каханне вышэйшай каштоўнасцю, неаддзельнай ад дабрыні. Калі Барбора пераконваецца, як мала цэняць дабро тыя, што стаяць ва ўладзе, яна вагаецца і нават спрабуе таксама «ўладарыць». Ды гэта — не яе ўдзел. Смерцю сваёй гераіня сцвярджае бессмяротную сілу дабрыні і чалавечнасці.

Караля Сігізмунда-Аўгуста мы спачатку бачым гэткім фанфаронам, спешчаным уладай і жанчынамі, які патурае сваім капрызам. Выканаўцу гэтай ролі У. Яфрэмаву ўдалося

## У СВЯТЛЕ РАМПЫ

# СУР'ЁЗНАСЦЬ НАМЕРАЎ

**На спектаклях Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі**

**НЯПРОСТА складвалася апошнім часам творчая біяграфія брэсцкага тэатра. Частая змена галоўных рэжысёраў адмоўна паўплывала на дзейнасць калектыву, і перадусім, — на мастацкую якасць пастановак. Пра гэта, помніцца, ішла вельмі сур'ёзная гаворка на выязным прэзідыуме БТА, які адбыўся летась у сакавіку. Тады ўсе мы разумелі, што ў такое становішча тэатр трапіў не раптоўна і што пераадолець яго адразу таксама не ўдасца. Знешне ўсё выглядала нібыта «добрапрыстойна»: выконваўся план выпуску пастановак, асобныя спектаклі нават збіралі поўную залу (напрыклад, «Дзень цудоўных падманаў» Р. Шэрыдана, асабліва калі на сцэне іграў папулярны ў горадзе ВІА)... Аднак агульны мастацкі вынік быў досыць сумны.**

**З кастрычніка 1984 года галоўным рэжысёрам тэатра працуе Уладзімір Забела. На чале з ім калектыў завяршае другі сезон. Якім жа выдаўся ён для Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра?**

**Мінулы год акрэсліў зрухі ў творчай дзейнасці, зрухі становучыя і найперш прыкметныя ў рэпертуары тэатра. Прадуманасць афішы ў яе тэматычна-жанравай разнастайнасці відавочная, дае падставу гаварыць пра сур'ёзнасць намераў калектыву.**

Сённяшняя брэсцкая афіша (маюцца на ўвазе менавіта новыя пастаноўкі, акрамя іх, актыўна іграецца шэраг раней пастаўленых спектакляў) сведчыць пра тое, што яе змест вызначаўся не толькі асабістымі прыхільнасцямі таго ці іншага рэжысёра, але таксама агульнымі інтарэсамі тэатра як мастацкага арганізма і, безумоўна, гледача. Прыкметна імкненне тэатра заявіць сваю непадобнасць, уключыць у рэпертуар творы не вельмі «зацяганыя» і праз іх выказаць свае адносіны да навакольнага свету. Галоўны тэматычны напрамак — сучаснасць: «Я, вядома, чалавек маленькі» М. Гараевай, «Бярозавая галіна» Ю. Візбара, «Вінаватыя» А. Арбузава, «Каскадзёр» М. Казоўскага і В. Свірыдава, «Добрая памяць па сходнай цане» В. Іпатавай. Сучасная зарубежная драматургія прадстаўлена п'есай Э. дэ Філіпа «Цыліндр». Для маленькіх гледачоў пастаўлены казкі «Выкраданне цыбулін» А. Машаду і «Алавянныя пярсцёнкі» Т. Габэ. Але ёсць яўны недахоп у фарміраванні рэпертуару — адсутнасць на афішы айчыннай і сусветнай класікі. Сярод васьмі новых пастановак — ніводнага класічнага твора...



«Я, вядома, чалавек маленькі» М. Гараевай. Сцэна са спектакля.



«Добрая памяць па сходнай цане» В. Іпатавай. Д. Дойбан (Наста) і У. Пестунаў (Кісляк).

**Спектаклямі «Бярозавая галіна» і «Я, вядома, чалавек маленькі» тэатр сцвярджае сваё разуменне сучаснага героя, шукаючы ў драматургіі характары, што найбольш адпавядаюць грамадзянскім і мастакоўскім поглядам калектыву. Абодва спектаклі пастаўлены У. Забелам.**

**Аповесць для тэатра «Бярозавая галіна» рэжысёр увасабляе сродкамі публіцыстычнай драмы. У. Забела валодае сцэнічнай мовай гэтага жанру, умее суадносіць яго законы з асаблівасцямі акцёрскага выканання, хоць заяўлены прыём рэтраспекцыі, мантаж розных эпізодаў кампазіцыйна не завершаны фіналам спектакля. Праўда, тут можна спаслацца на аўтара: Ю. Візбар не паспеў завяршыць працу над п'есай...**

**Спектакль пра дзень сённяшні — і пра вайну. Вайна «ўваходзіць» у сцэнічны твор не разумова, не дэкларатыўна, а лёсам былога падпольшчыка Караткевіча. Праз адносіны да гэтага чалавека і выяўляецца маральнасць усіх дзейных асоб. У цэнтры п'есы і спектакля малады ўрач Кандакоў, памкненні і ўчынкі якога скіраваны на клопат пра іншых. Да таго ж, ён памятае пра абавязак свайго пакалення перад тымі, хто здабыў перамогу ў Вялікай Айчыннай.**

**Кандакоў сыграны А. Гаманюком гранічна стрымана, нават наўмысна проста. Але за гэтай стрыманасцю — глыбіня пачуццяў і думак. Яго моц як чалавека — ў адухоўленым жаданні выратаваць Караткевіча, у нефармальным стаўленні да сваіх прафесійных абавязкаў. Акцёру часам «няўтульна» ў прапанаваных рэжысёрам франтальных мізансцэнах, якія перашкаджаюць непасрэдным кантактам паміж дзейнымі асобамі і часам парушаюць атмасферу неабходнага даверу. Такі прыём, думаецца, больш правамоцны, калі герой сам-насам застаецца з залай.**

**Надзвычай складаная роля ў У. Пестунава. За знешняй нерухомасцю Караткевіча акцёр здолеў перадаць біццё думкі, драматызм перажытага. Каларытны вобраз сястры Караткевіча, актрысы Варанковай, стварае Н. Ганчарэнка. У адным сцэнічным эпізодзе яна расказала многае пра жыццё сваёй гераіні, якая стамілася і адмовілася змагацца за брата. М. Мятліцкі ў ролі ўрача Касаўца, своеасаблівага антыпода Кандакова, малюе перспектыву развіцця характару, імкнецца адысці ад звыклага трафарэту ў раскрыцці «адмоўных» персанажаў. Вызначыла для сваёй гераіні — галоўурача бальніцы Чупрыковай — неабходную канкрэтыку паводзін В. Галубовіч. Знайшлі яркія, каларытныя дэталі для характарыстыкі сваіх персанажаў С. Еўдашэнка (Маландзін), А. Цецярчук (Ларыса), Г. Токараў (Янішэўскі), К. Перапяліца (Логінаў), У. Кулішаў (Сысоеў), М. Перапечка (Пулатаў). А вось Т. Ляўчук (Ірына, былая жонка Кандакова) не выйшла за межы звыклай тыпажнасці.**

**Сацыяльная праблематыка, публіцыстычнасць, непасрэдная сувязь з надзённымі пытаннямі часу ўласцівы спектаклю «Я, вядома, чалавек маленькі». Кожны чалавек адказны за ўсё, што адбываецца навокал — такая галоўная думка твора. Спектакль зноў вырашаецца У. Забелам у жанры публіцыстычнай драмы, які заяўляецца з першага выхаду акцёра А. Логінава ў ролі сакратара райкома партыі Калачова. Рэжысёру не заўсёды ўдаецца пераадолець рыторыку, дэкларатыўнасць, маладзейнасць драматургіі. Разам з тым, знаёмы па многіх п'есах драматургічны ход — прыём наведвальнікаў у райкоме партыі — набывае ў некаторых эпізодах, дзякуючы акцёрскаму выкананню, жывое гучанне. У маналогу Калачова, звернутым да гледача, абвяшчаецца асноўная праблема. Акцёр занепакоены, шчыры ў сваім жаданні «прабіцца» да сэрца і розуму людзей, абудзіць іх актыўнасць. А. Гаманюк (Фёдар), М. Кіцель (Жэня), Т. Маісеенка (Каця), В. Кастальцаў (Галкін) ствараюць запамінальныя сцэнічныя характары, хоць і не заўсёды па-мастацку переканаўча даводзяць працэс унутранага ўсведамлення сваімі героямі неабходнасці актыўнага стаўлення да жыцця.**

**Спектакль «Вінаватыя» пастаўлены Т. Белічэнка. Па сваіх прыхільнасцях яна — рэжысёр «акцёрскі», з адметным драматычным светаадчуваннем, што выяўляецца нават тады, калі ставіць камедыю. Рэжысёр пазбягае кідкіх пастановачных эфектаў, бачыць сваю галоўную задачу ў раскрыцці псіхалогіі характараў. Аднак, як ні парадаксальна гучыць, гэта часам абарочваецца псеўдадраматычнасцю, псеўдазначнасцю. На жаль, такія рысы ўласцівы і «Вінаватым».**

**Спектакль пастаўлены ў жанры меладрамы, вельмі распаўсюджаным і любімым гледачом. Аднак замест распрацоўкі характараў тэатр прапануе «меладраматычныя штампы», калі псіхалагічная глыбіня падмяняецца дэкларацыяй. Акцёры фарсіруюць голас, з плачу пераходзяць на крык альбо на шэпт, унутрана не апраўдваючы гэтыя знешнія праявы пачуццяў.**

**Недакладная вызначанасць сутнасці асноўнага канфлікту і**



«Барбора Радзвілайтэ» Ю. Грушаса. Сцэна са спектакля.
Фота А. БОЎШЫСА.

паказаць, як пераўвасабляецца чалавек пад дабратворным уплывам высокага кахання. Сігізмунд-Аўгуст набліжаецца да спасціжэння адвечных ісцін, мужнее, робіцца сапраўдным дзяржаўным дзеячам.

Спектакль Рускага тэатра Літоўскай ССР пераканаўча даводзіць, што дотык да гісторыі можа даць новы штуршок, паскарэнне духоўнаму жыццю сучаснага грамадства. Прыгадаем вядомыя словы Пушкіна: «Павага да мінуўшчыны — вось рыса, што адрознівае адукаванасць ад дзікунства». І менавіта мастацтва сцэны сёння з'яўляецца важным каналам для перадачы вопыту продкаў, пераемнасці традыцый. Нават больш чым «каналам» (іх зашмат у наш электронны век), бо акцёр у святле рампы — жывое ўвасабленне непарыўнай «сувязі часоў».

Думаецца, што спектакль нашых гасцей-суседзяў і ўвогуле распрацоўка літоўскім тэатрам тэмы гістарычнай памяці, апошнім часам надзвычай плённая, дае павучальныя ўрокі і прыклады, вартыя пераймання тэатральным мастацтвам нашай рэспублікі. Яны — у неабмежаваных магчымасцях сцэны для выяўлення лепшага, што ёсць у нацыянальным характары — той высокай духоўнасці, якая стагоддзямі акумулюецца народам. Яны — у неабходнасці сучаснага прачытання і сучаснага засваення гэтай духоўнасці, яе пашырэння і паглыблення. У імя дня сённяшняга і дня будучага.

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

---

**канкрэтных акцёрскіх задач прывялі да няпэўнасці галоўнай думкі твора. Не зразумела, пра што спектакль, хто вінаватыя? Паводле спектакля,— толькі маці Саколіка. Тым самым складаныя ўзаемаадносіны паміж героямі спрошчаны, ды і самі яны людзі нецікавыя. Не «прагучалі» маналогі-споведзі герояў. Акцёры М. Мятліцкі (Саколік), Т. Кавалеўская (Тоня), У. Шадчнеў (Ягор), Н. Ганчарэнка (Марыя Васільеўна), У. Пестунаў (Хрысталюбаў) не пайшлі далей раскрыцця фабульных характарыстык сваіх персанажаў. Спектакль застаўся на ўзроўні прыватнага выпадку, не ўзняўся да пастаноўкі значных маральных праблем.**

Асобнае месца ў рэпертуары займае «Каскадзёр», пастаўлены рэжысёрам К. Мальковічам. Гэта спектакль пра моладзь, і заняты ў ім маладыя акцёры. Жанр музычнага спектакля выявіў новыя якасці выканаўцаў, якія тэмпераментна існуюць у прапанаванай стылістыцы. А. Радкевіч (Сашка). Т. Кавалеўская (Юля), У. Шадчнеў (Джымі), А. Цецярчук (Света), М. Кіцель (Пол) добра спяваюць, пластычныя, рухомыя. М. Мятліцкі стварыў вельмі цікавы характар бацькі Сашкі. Пераадоленне ўнутранага дыскамфорту, выкліканага тым, што няма ўзаемаразумення з сынам, адчуванне свабоды, раскаванасць, унутраная імпульсіўнасць — такімі рысамі надзяліў ён свайго героя. Пераканаўчы К. Перапяліца ў ролі бацькі Светы.

Моладзь і акцёры сярэдняга пакалення ў лепшых сцэнах зніtaваны ў адзіны ансамбль. Жыццярадасны, тэатральны спектакль будзе мець свайго гледача.

**Брэсцкі тэатр першым паставіў п'есу В. Іпатавай «Добрая памяць па сходнай цане» (рэжысёр Т. Белічэнка). Скапідом, скнара Кісляк вырашыў перадаць у калгас свае грошы на будаўніцтва клуба... У п'есе гэта здарэнне — толькі зачэпка для раскрыцця сутнасці характараў, паказу тых змен, што адбываюцца з персанажамі. У спектаклі ж, наадварот, гэта зрабілася сэнсам дзеяння, а душэўныя зрухі засталіся на ўзроўні разумовай канстатацыі. Пазначаны жанр — камедыя — не рэалізаваны. Меладраматызацыя калізій, характараў не забяспечваецца драматургічным матэрыялам. «Падцягванне» п'есы да пастановачнага рашэння не дало станоўчых вынікаў. Акцёры спрабуюць знайсці адметную характарнасць, паказаць душэўныя зрухі, але далей знешніх прыкмет не ідуць. Выключэнне — роля Піліпіхі ў выкананні Г. Качатковай.**

**Зварот да п'есы Э. дэ Філіпа «Цыліндр» таксама сведчыць пра сур'ёзнасць мастацкіх намераў калектыву. Спектакль у пастаноўцы У. Забелы пачаткам сваім хутчэй нагадвае традыцыйную псіхалагічную драму, але са з'яўленнем на сцэне Аціліа — А. Логінава набірае тэмп і развіваецца ў жанры трагікамедыі. На сцэне ўзнаўляецца жыццё ва ўсёй складанасці і неардынарнасці чалавечага лёсу. Акцёры дэманструюць уменне спалучаць драматызм пачуццяў з арганічным існаваннем у камедыйных сітуацыях.**

**Цікавы характар старога багацея Аціліа стварыў А. Логінаў. Яго герой імкнецца за грошы купіць цеплыню і пяшчоту. У гэтым сваім жаданні ён і смешны, і варты жалю, і брыдкі. Акцёр вынаходліва вар'іруе настраёвасць свайго персанажа, не змяншаючы яго сацыяльную акрэсленасць. С. Еўдашэнка (Агасціна) і В. Галубовіч (Беціна) знайшлі выразныя фарбы, адметныя дэталі для характарыстыкі персанажаў, нідзе не педаліруючы іх «неапалітанскасць». А. Маркевіч надзяліў свайго Радольфа адметнай пластыкай, ён пераканаўчы ва ўчынках героя, у паказе дэвальвацыі яго маральных крытэрыяў. Складаная роля Рыты ў многім удалася Т. Ляўчук, хоць актрыса яшчэ не да канца вычарпала ўсе магчымасці драматургічнай першакрыніцы. Трэба больш абгрунтаваць яе рашэнне пайсці за Аціліа. Пераканаўчы М. Маршын, які стварыў кранальны вобраз Антоніа.**

**Рэжысёру У. Забелу можна зрабіць папрок у парушэнні кампазіцыйнага ходу. Заяўлены ў пачатку спектакля прыём «тэатра ў тэатры» ў фінале не атрымаў свайго лагічнага завяршэння.**

Восем брэсцкіх спектакляў, убачаных запар, дазваляюць зрабіць пэўныя высновы, акрэсліць пэўныя тэндэнцыі.

Першае, на што звяртаеш увагу, — гэта праблема выканаўчага майстэрства. Некаторыя вопытныя акцёры са спектакля ў спектакль эксплуатуюць адны і тыя выпрацаваныя прыёмы, ствараюць бачнасць глыбіні псіхалагічнай распрацоўкі. І што найбольш кідаецца ў вочы,—на сцэне парушаюцца партнёрскія сувязі, адчуваецца ўнутраная бяздзейнасць, пустыя паўзы, так званыя «зоны маўчання». «Слухаць» і моўчкі суперажываць могуць далёка не ўсе. Некаторым акцёрам уласцівы прафесійны брак.

Рэжысура тэатра не заўсёды арганічна спалучае ўсе кампаненты сцэнічнага дзеяння. Не заўсёды вытрымліваецца стылявое і жанравае адзінства. І калі ў тэматычным фарміраванні афішы адчуваецца выразны накірунак, то пра адзінства эстэтычных, мастацкіх намераў гаварыць пакуль што рана, хоць крокі ў гэтым напрамку робяцца.

Некаторым спектаклям не стае неабходнай эмацыянальнай «выбуховасці», сапраўднага драматызму. А побач існуюць сцэнічныя творы, дзе пануе танны меладраматызм. Даваць парады — справа няўдзячная, але ж тэатру трэба прыкласці ўсе намаганні на павышэнне агульнай сцэнічнай культуры пастановак.



«Бярозавая галіна» Ю. Візбара. А. Гаманюк (Кандакоў).
Фота Я. ПІЎНЕНКІ.

Варта адзначыць, што досыць актыўна і рознабакова занята ў спектаклях моладзь. Сёння маладыя акцёры вылучаюцца прыроджанай арганікай шчырасцю. Рэжысура павінна больш творча ставіцца да моладзі, не эксплуатаваць прыродныя дадзеныя, штучна не ствараць тыпажнасць.

**І кіраўніцтва тэатра, і калектыў, напэўна, ведаюць гэтыя праблемы. Прымаюцца актыўныя захады, каб наладзіць сапраўды творчую атмасферу. Але з будучага сезона пачынаецца рэканструкцыя тэатральнага будынка. Сёння тэатр, па сутнасці, беспрытульны. Наперадзе гастролі, — а потым? Шкада будзе, калі станоўчыя зрухі, што намеціліся ў калектыве, не здолеюць прабіцца скрозь «аб'ектыўныя прычыны».**

**...На жаль, сёння ўсё яшчэ існуе ў нас падзел тэатраў на «сталічныя» і «абласныя» (чытай «перыферыйныя»). І ў ацэнках спектакляў мы нярэдка зыходзім менавіта з гэтага падзелу: маўляў, хіба можна параўноўваць жыццё абласных і сталічных тэатраў? Дый самі тэатры часам таксама хаваюцца за «геаграфію». Але ў нас не павінна быць тэатральнай перыферыі. Дзе б ні працаваў тэатральны калектыў, пра яго творчасць трэба меркаваць з такой пазіцыі — стварае тэатр сапраўднае мастацтва альбо не.**

**Клара КУЗНЯЦОВА.**

---

МУЗЫКА

# АДЗІН У МНОГІХ АБЛІЧЧАХ

Імя, пазначанае на запрашальным білеце, не так многа мне гаварыла. Мікалай Майсеенка... Ведала, што ён саліст нашага опернага тэатра. Але да таго часу яшчэ не даводзілася чуць яго ў спектаклі. Прозвішча наогул было мне знаёмае: успомніла, што некалі Майсеенка вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, у студэнцкіх канцэртах даводзілася яго слухаць. Потым ён знік з музычнага жыцця Мінска...

Напэўна, цікаўнасць да таго, што сёння ўяўляе сабой малады саліст, побач з прозвішчам якога ў запрашальным білеце значылася: «заслужаны артыст РСФСР», і прывяла мяне на ягоны вечар у Дом кіно. Я не пашкадавала, бо адкрыла для сябе адметнага спевака, артыста. Прыгожы, моцны, сакавіты голас, якім ён валодае па-майстэрску і якім можа перадаваць нюансы чалавечых пачуццяў і перажыванняў. Менавіта ён у першую чаргу ўразіў слухачоў. А прафесіяналізм спевака нібыта сам сабой падразумяваўся (хоць быў, канечне, плёнам вялікай працы). І яшчэ — з нейкай асаблівай годнасцю паводзіў сябе на сцэне Мікалай Майсеенка. Не было касцюмаў і грыму, а перад гледачамі паўставалі адзін за адным яркія, пераканаўчыя вобразы Мазепы, Рыгалета з аднайменных опер, Дона Карласа з «Сілы лёсу», Яга з «Атэла», князя Мікіты Курляцева з «Чарадзейкі».

Мне захацелася ўбачыць і пачуць М. Майсеенку на опернай сцэне, праверыць свае ўражанні. І паразважаць пра тое, якім вярнуўся ў родныя мясціны колішні выхаванец Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, вярнуўся праз дзесяць гадоў пасля заканчэння. Чаму ж так расцягнуўся яго шлях на беларускую оперную сцэну, чаму не адразу тады прынялі яго ў трупу тэатра, дзе два гады быў стажорам? На жаль, абставіны часта складваюцца так дзіўна, незразумела, недарэчна...

Нарадзіўся ў рабочай сям'і ў Гомелі. Ужо школьнікам з асалодай спяваў у самадзейным хоры. Потым удзельнічаў у хоры Палаца культуры «Гомсельмаша». Пасля заканчэння восьмага класа падаў заяву на вакальнае аддзяленне музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага. Не ўзялі — быў яшчэ малы для заняткаў вакалам. Толькі на трэці раз, пасля заканчэння школы, быў, нарэшце, прыняты ў вучылішча, клас педагога І. Працэнкі. Паспяхова займаўся, з чацвёртага курса быў прызваны ў армію, трапіў у музыканцкую роту. Там кіраваў хорам, займаўся з салістамі. А потым ...таксама тры разы паступаў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю (зайздросная ўпартасць у дасягненні мэты!), на трэці раз быў прыняты ў клас С. Асколкава. На чацвёртым і пятым курсах быў у стажорскай групе опернага тэатра. Але салістам тэатра не стаў. Чаму? Хто праз чатырнаццаць гадоў можа растлумачыць гэты парадокс... Ён паехаў на радзіму, у Гомель, пачаў выкладаць у музычным вучылішчы.

І ўсё ж збылася мара: праз два гады Мікалай быў запрошаны ў Свярдлоўскі тэатр оперы і балета.

Рыгалета, Гразной, Эскамільё, граф Томскі, Тоніа, князь Ігар — шэсць складаных оперных партый за год работы! Вынік, безумоўна, выдатны. Сем гадоў працаваў М. Майсеенка ў свярдлоўскім тэатры, адным з самых аўтарытэтных оперных тэатраў краіны. Спіс увасобленых роляў папаўняўся. Былі цікавыя гастролі: у тэатрах Новасібірска, Алма-Аты, Пярмі, Чэлябінска, Казані, Ленінграда. У 1979 годзе пасля паспяховых гастроляў свярдлоўскага тэатра ў Маскве М. Майсеенка быў удастоены ганаровага звання заслужанага артыста РСФСР.

І ўсё ж ён вярнуўся ў Мінск. Там, у Свярдлоўску, засталася цікавая перспектыўная работа. Чаму пакінуў усё гэта?

— Так, работа ў Свярдлоўску была вельмі цікавая, перспектыўная, цудоўны рэпертуар, — прызнаецца М. Майсеенка. — Але... Успомніце песню Ігара Лучанка «Жураўлі на Палессе ляцяць». Вось і я, як тыя жураўлі: пацягнула на радзіму. Тут я нарадзіўся, вучыўся, стаў прафесійным спеваком. Не мог я больш заставацца ўдалечыні ад роднага краю... Гэта не проста высокія словы, гэта мае адчуванні, мае думкі, тут увесь я...

Першы спектакль, у якім выйшаў на сцэну як саліст беларускага опернага тэатра, — «Новая зямля», партыя Міхала. Тут усё было яму блізка: і беларуская мова, і нацыянальнага характару музыка, і сюжэт з класікі беларускай літаратуры. Пачатак быў цікавы. Спявак хутка ўвайшоў у бягучы рэпертуар тэатра: князь Ігар, Рыгалета, Гразной, Томскі. А затым — Дзянісаў і Напалеон у «Вайне і міры», Эбн Хакія ў «Іяланце». Работа ў «Казках Гофмана» вымагала тонкага пераўвасаблення акцёра: Ліндорф, Капеліус, Дапертута, Міракль — чатыры аблічча ў адным спектаклі!..

Слова — яго партнёрам па сцэне. Народная артыстка СССР Святлана Данілюк гаворыць:

— Майсеенка — цудоўны партнёр. Мне давялося выступаць з ім у «Царскай нявесце», дзе я выконвала партыю Любашы. Ад кожнага спектакля заставаўся ўспамін пра ўдумлівага акцёра і адметнага спевака. У яго прыгожы, яркі па гучанні голас, драматычны талент — тое, што робіць работу артыста на сцэне сапраўдным святам і для гледачоў, і для партнёраў па спектаклі. Майсеенка сапраўдны прафесіянал. Выклікае павагу яго адданасць тэатру, яго любоў да сваёй справы. Мне давялося бачыць яго ў «Пікавай даме» — цудоўны Томскі! Наогул жа, Мікалай Сяргеевіч вельмі мяккі, карэктны чалавек, добры таварыш.

А вось што сказала заслужаная артыстка БССР Людміла Колас:

— У спектаклі «Рыгалета» Мікалай Сяргеевіч спявае Рыгалета, я — Джыльду. З ім лёгка, спакойна, надзейна; ён заўсёды сабраны. Мне падабаецца яго трактоўка вобраза Рыгалета. Асэнсавана ўсё, Мікалай Сяргеевіч ніколі не дазволіць сабе выйсці на сцэну з дрэнна вывучанай партыяй, не прадумаўшы мізансцэны. Ён сур'ёзны, удумлівы спявак, адчувае стыль і характар кожнай ролі.

...Ён падрыхтаваў ролю Яўгенія Анегіна ў новай пастаноўцы тэатра. Я ўяўляю сабе знешняе аблічча, голас, манеру сцэнічных паводзін — гэта павінна быць адметная работа.

**Алена РАКАВА.**

## САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# ЗВАННЕ ПАЦВЕРДЗІЛІ ЎСЕ




**У рамках Другога ўсесаюзнага фестывалю народнай творчасці працоўных у Мінску і вобласці праведзены 8 абласны агляд-конкурс народных і ўзорных калектываў і іх калектываў-спадарожнікаў. У ліку ўдзельнікаў творчых справаздач былі аркестры і ансамблі народных інструментаў.**

**Кожныя тры гады аркестры трымаюць справаздачу, дэманструюць сваю выканаўчую форму і творчыя дасягненні. Справаздача гэтая адказная і сур'ёзная, бо ў журы конкурсу — вядучыя беларускія музыканты, узначальвае яго мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага аркестра народных інструментаў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў, рэктар БДК Міхась Казінец; сярод членаў журы — заслужаны дзеяч культуры Міхась Солапаў, загадчык кафедры аркестравага дырыжыравання БДК Сяргей Кафанаў і іншыя.**

**По ўмовах конкурсу калектыў павінен прадставіць праграму на 45-50 мінут, якая складаецца на тры чвэрці з новых твораў. што раней на конкурсах не выконваліся (інструментальныя п'есы, песні ў суправаджэнні аркестра і выступленні салістаў-інструменталістаў).**

**Сёлетні агляд-конкурс праводзіўся два дні. У першы дзень выступалі народна-аркестравыя калектывы.**

Адкрыў конкурс народны цымбальны аркестр Дзяржынскага ГДК. Гэта самабытны калектыў, які вырас з некалькіх сямейных музычных «дынастый». У яго рэпертуары пераважае народная музыка, у тым ліку мясцовыя найгрышы, якія прынеслі ў аркестр старэйшыя музыкі-самавучкі. Цяпер у калектыве шмат моладзі, але даўнія традыцыі зберагаюцца. Іграюць тут не толькі на цымбалах. У аркестры створана цікавая фальклорная група (кіраўнік А. Цяцюхін): 2 дудкі, жалейка, ліра, скрыпка, цымбалы, гармонік, баян, кантрабас і бубен. На конкурсе фальклорны ансамбль выканаў апрацоўкі беларускай музыкі: «Святочныя найгрышы» В. Купрыяненкі, польку «Вясна» і «Беларускую польку». Відаць, кіраўніку аркестра Мікалаю Ваўчку трэба прадаўжаць фарміраванне рэпертуару шляхам засваення нацыянальнага музычнага здабытку Беларусі і, у прыватнасці, свайго раёна, бо менавіта беларуская музыка найбольш і ўдаецца калектыву.

Упершыню на конкурсе-аглядзе выступаў малады калектыў з Крупіцкага Дома культуры Мінскага раёна — народны цымбальны ансамбль «Пралескі». Гэта прыгожы, вельмі сцэнічны калектыў, у якім іграюць адны дзяўчаты. Аснову рэпертуару складае беларуская народная музыка і творы Ю. Семянякі, А. Мдзівані, В. Іванова, І. Жыновіча. Не ўсё было сыграна раўназначна, але сярод удач — «Жыву ў бярозавым краі» Я. Зоціна (сола на флейце — загадчыца Пятніцкага сельскага клуба І. Грачанік), «Беларуская полька» М. Кончына, «Музычныя карцінкі Кубы», дзе былі выкарыстаны розныя характэрныя ўдарныя інструменты, у тым ліку і кубінская «бучача». Выступленне «Пралескак» спадабалася. Кожная п'еса ігралася з любоўю, музычна. У выканальніц добрае адчуванне ансамбля, і відаць, што калектыў дружны і мэтанакіраваны. У гэтым, вядома, немалая заслуга і кіраўніка — Зоі Пятроўны Філонавай.

Аркестры рускіх народных інструментаў прадстаўлялі чатыры калектывы, сярод якіх самым значным па выканаўчым майстэрстве быў народны камерны аркестр Маладзечанскага ГДК. У мінулым годзе ён адзначыў сваё дзесяцігоддзе. Арганізатар і нязменны кіраўнік калектыву Р. Сарока — дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча. Праграма гэтага конкурсу, як, дарэчы, і мінулага, вызначалася віртуознасцю, прыгажосцю, багаццем аркестравых фарбаў, пачуццём стылю, формы. Добрае ўражанне зрабілі і грацыёзны, адточаны «Менуэт» Л. Бакерыні, і вострадынамічная карцінка рускага маладзецтва «Ля варот-варот» А. Цімашэнкі (сола на баяне В. Адзінцоў), і тонка стылізаваны «Рускі вальс» В. Гарадоўскай, і бліскучы кірмашовы «Перапляс» У. Камарова, і арыгінальны, дасціпны «Камічны марш» М. Фарбаха.

**Асаблівы эфект выкананню надае ўключэнне ў партытуру вялікай групы ўдарных інструментаў. Большасць твораў, якія іграюць маладзечанцы, — гэта арыгінальныя сачыненні савецкіх аўтараў для народнага аркестра. Гэта п'есы з сучаснай музычнай мовай, выразнай фактурай. Яны цікавыя з пункту гледжання гармоніі і рытму, у іх выкарыстоўваюцца спецыфічныя прыёмы ігры. Іначай пераламляюцца ў іх і народныя мелодыі, якія, як правіла, служаць зыходным матэрыялам для стварэння своеасаблівых, сугучных часу п'ес. Нацыянальны каларыт спалучаецца ў іх з вострым рытмам, пульсам сённяшняга дня. Таму праграма Маладзечанскага аркестра вельмі сучасная, незайграная і вытрымана ў адзіным стылі. Ядро калектыву — выкладчыкі Маладзечанскага музвучылішча, якія з'яўляюцца сапраўднымі прапагандыстамі народна-інструментальнай музыкі. Да месца нагадаць, што ў нас у рэспубліцы 11 музвучылішчаў, у якіх працуе нямала музыкантаў-народнікаў. А вось калектывы, падобныя на Маладзечанскі, штосьці не ўзнікаюць. А як бы рушыла справа эстэтычнага выхавання ў кожнай вобласці, калі б і ў іншых вучылішчах былі створаны такія ж музычныя калектывы!**

Прыкладна аднолькавы выканаўчы ўзровень паказалі аркестры народных інструментаў Стаўбцоўскага, Уздзенскага РДК і Слуцкага ГДК. Аснова інструментальнага складу тут руская, г.зн. домры, балалайкі, баяны. Уводзяцца таксама драўляныя духавыя і ўдарныя інструменты. Найбольш цікавай была праграма аркестра са Стоўбцаў (кіраўнік Э. Лямбовіч). Удала былі выкананы «Антракт» з оперы «Новая зямля» Ю. Семянякі, «Казачая» В. Капусцяка, «Іспанскі танец» Э. Гранадаса і імклівая беларуская «Весялуха». Аркестр іграе не толькі інструментальную музыку, але і шмат акампанементаў, як салістам-вакалістам, так і народнаму харавому калектыву калгаса «Нёман», з якім яго звязвае даўняя творчая дружба.

Дэбютантам конкурсу быў аркестр Уздзенскага РДК (кіраўнік В. Шышко) — званне народнага яму прысвоена толькі ў 1984 годзе. Праграма выступлення была разнастайная, з пераважаннем твораў савецкіх аўтараў. З аркестрам выступаюць салісты-вакалісты і інструменталісты. Удалымі нумарамі праграмы сталі песні «Гармонік-балалайка» Л. Смялкоўскага ў выкананні метадыста РДК Людмілы Пазыровай і «Беларускія танцы» І. Жыновіча (сола на цымбалах Ірына Марчанка). Самым яркім творам праграмы быў «Смаленскі казачок», дзе сола на лыжках выконвалі чацвёра юных музыкантаў.

Менш паспяхова выступіў аркестр Слуцкага РДК (кіраўнік Л. Саламонік). Яго праграма была досыць аднастайная, зацягнутая, выконвалася неэмацыянальна, хоць былі і ўдачы (напрыклад, «Валёнкі» А. Шырокава).

У тыя дні дэманстравалі сваё майстэрства аркестры горада Мінска.

**Першым выступіў народны цымбальны аркестр рэспубліканскага Палаца культуры прафтэхадукацыі. Рэпертуар, прадстаўлены на конкурс, амаль цалкам абноўлены. Упершыню мы пачулі ў выкананні калектыву «Уверцюру» А. Холмінава. Цудоўнае выкананне старадаўняга вальса А. Бекера «Чаканне» пакарыла пяшчотнай мелодыяй і багаццем аркестравых фарбаў. Лірычна і тонка прагучала кранальнае «Адажыо» з балета Я. Глебава «Маленькі прынц». Беларуская музыка была прадстаўлена новай п'есай Д. Смольскага «Родная песня», якая вабіць сваёй свежасцю і трапятлівасцю, а таксама «Лявоніхай» І. Жыновіча, якая стала ўжо цымбальнай класікай. У рэпертуары трывала занялі месца і класічныя творы. І ўсё ж асноўнае для калектыву выкананне твораў вясёлых, жыццярадасных. Менавіта яны больш за ўсё даспадобы маладым выканаўцам і іхняму кіраўніку Г. Ермачэнкаву. Тут плённа працуюць і з нацыянальным фальклорам, і п'еса Н. Сіраты «Ельскія трындушкі» — удалы ўзор гэтых пошукаў.**

Адзін з вядучых калектываў Мінска — народны аркестр Палаца культуры Белсаўпрофа (кіраўнік У. Перацяцька). Рэпертуар калектыву разнастайны. З вялікай увагай у аркестры ставяцца да твораў беларускіх аўтараў, і многія іх п'есы ўпершыню гучалі менавіта ў яго выкананні. Асабліва любяць тут творы Я. Глебава. І ў цяперашняй праграме была выканана яго «Гумарэска» і дзве часткі з «Палескай сюіты». Прыемна разнастаілі яркую і мажорную праграму лірычныя п'есы, сярод якіх трэба адзначыць задушэўнае выкананне вальса А. Бекера «Лясная казка». У заключэнне праграмы па традыцыі быў выкананы бліскучы і незабыўны «Свецць месяц» В. Андрэева. Аркестр Белсаўпрофа парадаваў сваіх прыхільнікаў цудоўным выкананнем, віртуознасцю.

Прадставіў сваю праграму на конкурс і лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі народны цымбальны аркестр ДК Упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкома (кіраўнік А. Берын). Выступленні гэтага аркестра з поспехам праходзілі ў ГДР і ПНР, Усесаюзная фірма грамзапісу «Мелодыя» выпусціла пласцінку з запісаў калектыву.

**Аркестр схільны да складаных твораў, якія патрабуюць тэхнічнага майстэрства і высокага выканаўчага ўзроўню, да буйной формы. Трывалае месца ў рэпертуары заняла класіка. Але галоўнай заўсёды застаецца беларуская музыка. У аркестра наладжаны моцныя творчыя сувязі з маладымі беларускімі кампазітарамі, якія пішуць для яго свае сачыненні; ён жыва адгукаецца на ўсе інструментальныя навінкі. Аднак і цымбальнай класіцы тут адведзена заслужанае месца. У цяперашняй праграме паспяхова прагучала вядомая «Лявоніха» І. Жыновіча, «Элегія» Д. Смольскага, «Зорка Венера» ў апрацоўцы А. Берына (яна выконвалася з уключэннем арыгінальнага народнага інструмента пад назвай «беларускі салавей»), «Мушкецёры» Я. Глебава. Сярод вакальных твораў (у суправаджэнні аркестра) таксама пераважалі беларускія.**

Студэнцкая самадзейнасць сталіцы была прадстаўлена трыма калектывамі. Усе яны створаны даўно, усе вядомы ў нас у рэспубліцы. Цяжка і падлічыць сёння, колькі студэнтаў МДПІ імя М. Горкага, БДУ імя У. І. Леніна або БПІ прайшло за гэтыя гады праз творчую лабараторыю гэтых аркестравых калектываў, узбагаціўшыся глыбокім веданнем музыкі, развіўшы свой мастацкі густ.

Парадаваў сёлета народны аркестр Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. На мінулым конкурсе аркестр быў на мяжы развалу. І тым больш важкі сёлетні поспех: калектыў прадставіў вялікую, значна абноўленую праграму, сыграную на добрым узроўні. Хацелася б толькі параіць калектыву шырэй уключаць у рэпертуар інструментальныя творы беларускіх аўтараў, тым больш, што ў яго складзе пераважаюць цымбалы, хацелася б больш пачуць народнай музыкі. Усё гэта — падставы для роздуму новаму мастацкаму кіраўніку калектыву А. Шапялевічу.

**Канечне, аркестр БПІ стаіць не на такім высокім выканаўчым узроўні, як некаторыя вышэйназваныя калектывы. Але ён жыве, працуе, разам са студэнтамі іграюць тут і выкладчыкі. У рэпертуары аркестр прытрымліваецца «андрэеўскіх» традыцый. Яго аснову складаюць апрацоўкі народных песень, у асноўным, рускіх, з нескладанай партытурай, меладычных, добра запамінальных. З беларускіх твораў удала былі выкананы «Беларуская полька» М. Чуркіна і «Спеў дуброў» В. Іванова. П'еса ж Я. Глебава «Залатая восень» прагучала вельмі сыра. Большай тэхнічнай свабоды і тэмпу патрабавалі «Вальс» Г. Свірыдава і «Венгерскі танец» № 1 І. Брамса.**

**Паказаў сваю праграму аркестр народных інструментаў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (кіраўнік — У. Перацяцька). Разнастайны яго рэпертуар: класіка, сучасная музыка, шмат вакальных твораў. Адкрывалася конкурсная праграма «Камсамоліяй» І. Лучанка. Сярод асабліва ўдалых твораў «Гумарэска» Я. Глебава і «Народны танец» Д. Шастаковіча. Меней удала прагучалі «Вальс» А. Хачатурана да драмы Ю. Лермантава «Маскарад» і «Прэлюдыя» С. Рахманінава з-за вельмі марудных тэмпаў. Большай дынамічнай яркасці і характару хацелася б у п'есе Б. Фігоціна «Матылёк» і вядомай п'есе Дэ-Луна «Закліананне агню».**

У конкурсе не ўдзельнічаў народны аркестр народных інструментаў ДК Упраўлення бытавога абслугоўвання Мінгарвыканкома. Гэты калектыў, які вядзе сваю творчую біяграфію яшчэ з 1948 года, у апошнія гады знаходзіцца ў заняпадзе. Кіраўніцтва ДК, на жаль, не прымае належных мер для выпраўлення такога становішча.

**Лаўрэатамі 8 агляду-конкурсу сталі народны камерны аркестр Маладзечанскага РДК і народны аркестр Палаца культуры Белсаўпрофа (сярод рускіх складаў), народны аркестр Палаца культуры прафтэхадукацыі (сярод цымбальных складаў). Дыпломамі І ступені ўзнагароджаны цымбальныя аркестры ДК Упраўлення бытавога абслугоўвання Мінгарвыканкома, БДУ імя У. І. Леніна і Дзяржынскага ГДК. Дыпломаў ІІ ступені ўдастоены аркестр рускіх народных інструментаў Стаўбцоўскага РДК, МДПІ імя М. Горкага, а таксама ансамбль цымбалістак «Пралескі» Крупіцкага ЦДК. Дыпломы ІІІ ступені ўручаны аркестравым калектывам Уздзенскага РДК і Слуцкага РДК. Заахвочвальны дыплом атрымаў аркестр Беларускага політэхнічнага інстытута. Пераходныя прызы конкурсу — мастацкія вазы — былі ўручаны двум прафсаюзным калектывам: цымбальнаму аркестру Палаца культуры прафтэхадукацыі і Палаца культуры Белсаўпрофа. Конкурс паказаў, што жанр народна-аркестравай музыкі ў Мінскай вобласці паспяхова развіваецца. Але разам з тым выявіўся і шэраг недахопаў, на якія неабходна звярнуць увагу перш за ўсё кіраўнікам аркестравых калектываў.**

Заўсёды вострай застаецца праблема рэпертуару, цікавага і ў той жа час нескладанага, які адпавядае тэхнічным магчымасцям самадзейных выканаўцаў. Кіраўнікам трэба смялей звяртацца да арыгінальнай аркестравай музыкі: партытур Фрыда, Пікуля, Баяшова, Шахматава, Краўчанкі, твораў маладых беларускіх аўтараў. Яны поўныя прыгожых мелодый, свежых аркестравых фарбаў, яркіх рытмаў, яны блізкія сённяшняй моладзі, а ў аркестрах жа іграе амаль адна моладзь. Толькі тады аркестр будзе цікавы і яго ўдзельнікам, і слухачам, калі ён пашырае свае рэпертуарныя рамкі.

Вымагае вырашэння і пытанне з серыйным выпускам нацыянальнага інструментарыя. Практычна немагчыма ні заказаць, ні купіць фальклорныя інструменты, цяжка з цымбальнымі палачкамі (палачкі, якія выпускае Барысаўская фабрыка, вельмі нізкай якасці). Вельмі цяжка набыць літаўры, кантрабасы, гуслі. А возьмем праблему касцюмаў. Многія калектывы выступалі ў пазычаным адзенні.

Праблема транспарту таксама вельмі вострая. РДК часта не маюць свайго аўтобуса для аркестравага калектыву, а арэнда каштуе нямала.

Вельмі важна, каб такія конкурсы праходзілі пры шырокім удзеле слухачоў. Гэта павышае адказнасць музыкантаў-выканаўцаў, робіць іх выступленне не толькі экзаменам, але і святам. На жаль, арганізатары конкурсу мала паклапаціліся аб глядацкай аўдыторыі, што значна знізіла агульны эмацыянальны яго тонус.

**В. ТРАМБІЦКАЯ,**
**ст. выкладчык кафедры аркестравага дырыжыравання Мінскага інстытута культуры.**

# НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).**

Калі немцы паехалі, з кустоў на гравійку, асцярожна азіраючыся, выйшлі Рудзеня і Белавус — астатнія разбегліся па лесе. Яны моўчкі, унурана, быццам не ведалі, што рабіць, стаялі на пяску, апусціўшы рукі. Гэты нечаканы, жорсткі напад немцаў, смерць таварышаў ашаламіла іх, і яны не ведалі, што цяпер рабіць. Белавус, учарнелы з твару, без шапкі, у расхрыстанай старой ватоўцы, шаркаючы па жвіры стаптанымі кірзачамі, падышоў да Мазура, які ляжаў ніцма, тварам у пясок, з пасечаным збоку кулямётнай чаргой новенькім жоўтым рамянём.

— Дык што ж гэта, Сцяпанавіч, будзе? Мо канец свету? — спытаў ён у Рудзені, які падышоў і стаў побач, глухім балесным голасам. — Дык што ж ета? Хто ж адкажа за ета?

Моўчкі стаяў Рудзеня, сцяўшы белыя, без крывінкі губы, ды вочы, ураз пастарэлыя, пагухлыя, выдавалі яго стан. Апусціўшы плечы, ён моўчкі адышоўся. Што ён мог сказаць Белавусу? Без слоў усё было зразумела.

— Трэба пахаваць хлопцаў,— з уздыхам вымавіў Белавус. — Эх, ты, чай-накачай... Пайду пашукаю, у кузаве рыдлёўка была...

І нямогла цёпкаючы ботамі, адразу ўшчэнт знясілены, ён пацягнуўся да разбітай палутаркі, а Рудзеня стомлена прысеў ускрай дарогі на пясок і, не міргаючы, невідушча глядзеў на распасцёртага Мазура, які так і не паспеў зразумець, што адбылося на дарозе...

Рудзеня і Белавус лесам ішлі да Вязеня. І не ведалі яны тады, што гэта толькі першыя ахвяры жудаснай вайны, і што яшчэ тысячы і тысячы маладых і здаровых, упадуць на зямлю, і што праз год, у такі ж сонечны чэрвеньскі ранак, іхнія Даманавічы дашчэнту спаляць карнікі разам з людзьмі...

Тады яны гэтага не ведалі...

ВІНШУЕМ

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ПРАФЕСІЯ

**Заслужанаму артысту БССР І. КУРГАНУ—60 гадоў**

Пачну з таго, што яна яшчэ маладая — прафесія радыёдыктара. Як само гучанне чалавечага голасу ці музыкі ў рэпрадуктары, прыёмніку. Калі на маё пакаленне, то цуд гэты стаў звычайнасцю пры нашых дзядах. Прадзеды, сутыкнуўшыся з ім, адмахнуліся б, як ад нячыстай сілы. І, вядома, гэта прафесія не шырокая, не масавая. Хоць следам за радыё пераможна ўвайшло цяпер у чалавечае жыццё тэлебачанне, і да таямнічых усёведаў, якіх мы чуем, значна павялічыўшы карпарацыю, дадаліся тыя, якіх яшчэ і бачым, кожны новы дыктар па-ранейшаму застаецца вынікам штучнай, а не серыйнай падрыхтоўкі. Прычым не толькі таму, што дыктараў заўсёды будзе патрэбна менш, чым слесараў. Прычына і ў нячастым спалучэнні ў адной асобе дадзеных, для гэтай работы абавязковых. Як прыродных, так і набытых.

У Чапека ёсць сентэнцыя наконт газетчыкаў: «Наколькі мне вядома, ніхто да гэтага часу не спрабаваў выявіць, адкуль бяруцца журналісты. Праўда, існуе інстытут журналістыкі, але я не сустракаў яшчэ журналіста, які б выйшаў адтуль...» З калегамі Чапека ў нас прасцей — іх выпускаюць спецыяльныя факультэты. А вось дыктары — хто дае спецыяльнасць ім? Ніхто. Набываюць самі. Вучобай у старэйшых. У групе, напрыклад, якая працуе на Беларускім радыё, паводле зарэгістраваных аддзелам кадраў дакументаў, ёсць дыпламаваныя настаўнікі, эканаміст, аўтамеханік, журналіст, акцёры. І тым не менш усе яны цяпер прафесіяналы. Некаторыя — самага высокага класа. Адзін з іх — Ілья Курган.

Што змушае інжынера, настаўніка, артыста падаць заяву на конкурс, які час ад часу абвяшчае радыё, і калі конкурсная камісія пацвердзіць, што ён у праве на гэта не памыляецца, крута на жыццёвай дарозе павярнуць? Думаю, не толькі жаданне выявіць, зрабіць карысным атрыманае ад матухныпрыроды: прыгажосць і гнуткасць голасу, арганічны артыстызм, іншыя якасці, наяўнасць якіх — перадумова ўпадабанай прафесіі.

Правільна, дыктар не артыстчытальнік. Калі артыст павінен у твор, які выконвае, ужыцца, тэкст аўтара зрабіць сваім, то смешна выглядаў бы дыктар, які б надумаў як сваё выконваць афіцыйны дакумент, газетную хроніку. «Таго, што чытаеш, не іграй» — адна з галоўных для дыктара запаведзей. Дыктар перш за ўсё інфарматар. Ён паведамляе, а не самавыяўляецца. Яго самога слухач адчуваць не павінен.

Тым не менш...

Ілья Курган прыйшоў на радыё на пачатку пяцідзесятых, папрацаваўшы пасля інстытута (ён з першага выпуску Беларускага тэатральнага) гады два на сцэне. Хутка прызнаны і ацэнены, заваяваў права на ўдзел у самых пачэсных, адказных перадачах. У прыватнасці, наколькі помніцца, дзесяцігоддзі запар адкрываў першамайскія і кастрычніцкія святочныя рэпартажы радыё. Дык вось, хіба ён бываў тады толькі інфарматарам? Хіба не нёс і ўласныя адносіны, уласную ўзрушанасць тым, пра што расказваў рэспубліцы?

Запаведзь для дыктара яшчэ адна: звяртацца не да ўсіх — да кожнага. Радыё слухаюць мільёны. Але слухаюць паасобку — з гукам эфіру сам-насам, ці ў кампаніі з сям'ёй, сябрамі. Павінна перадавацца надзвычайнае, каб ля прыёмніка ці рупара сабраўся гурт, натоўп. Разумеючы гэта, дыктар імкнецца нават матэрыял афіцыйны, дзелавы, менш за ўсё адрасаваны эмоцыям, падаваць у танальнасці даверлівай размовы, як бы чытаючы яго таварышу, што сядзіць поруч. Імкнецца да гэтага кожны, атрымліваецца не ў кожнага. У Кургана — атрымліваецца.

Што ж казаць пра выпадкі— Кургану шанцавала і на іх, — калі запрашалі яго на перадачу мастацкую, на ўдзел у запісе спектакля, на чытанне паэзіі, харошай прозы! Атрымліваў асалоду майстар, атрымлівалі асалоду слухачы. «Вядомае мне, звычайнае, я слухаў як музыку зместу, — чытаю ў пісьме, дасланым яму пасля перадачы пра Дуніна-Марцінкевіча Фёдарам Янкоўскім. — Гэта чытанне мастака, улюбёнага ў сваю справу. Дай божа, каб такое чытанне гучала ў нас кожны дзень..»

Шкада становіцца, калі майстру такога ўзроўню прапаноўваецца чытаць невыразнае, шэрае. А здараецца ж. І не з ім адным — з Ліліяй Давідовіч, Марыяй Захарэвіч, з іншымі акцёрамі, якімі ганарыцца беларускі тэатр. Скрыпкай забіваем цвікі, чэснае слова!..

Ужо шмат гадоў Курган выкладае ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Педагог ён — адзін з любімых студэнтамі. Што культура мовы ў выпускнікоў акцёрскага факультэта, як правіла, высокая, у немалой ступені і яго заслуга. Але «школа Кургана» ў дыктарскай прафесіі існуе яшчэ даўжэй. Вучаць жа не толькі праводзячы заняткі — вучаць прыкладам, зададзеным узроўнем. Людзі, што прайшлі гэтую прызнаную школу, сёння сярод першых дыктараў Цэнтральнага тэлебачання, Усесаюзнага радыё, перад мікрафонамі і тэлекамерамі Беларусі.

Прыемна з нагоды юбілею паціснуць руку таварышу, які дасягнуў у сваёй прафесіі вышыняў, якога ведаю і шаную дзесяткі гадоў.

**Уладзімір МЕХАЎ.**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 5

**Артыкул В. Бандарчыка «Жыццём народжаныя», якім адкрываецца нумар, прысвечаны новым святам, абрадам, звычаям і традыцыям.**

**Пра Х пленум праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР, XI пленум праўлення Саюза мастакоў БССР і Усесаюзны агляд нагляднай агітацыі і палітычнага плаката «Славіцца працай чалавек» расказваюць нататкі «Экран у фокусе праблем», «З трывогай пра лёс карціны» і артыкул У. Алісейчыка «Пункт адліку».**

**Працягваюць дыскусію пра тэатр А. Мілаванаў («На карысць агульнай справы»), Л. Манакова («Будзем партнёрамі»), С. Кузьміна («...І тады я спытаюся: хто «забіў» тэатр?»), В. Маслюк («Хапіла б мужнасці...»), У. Мішчанчук («З верай у будучыню»).**

**Пра мастакоў кіно гаворыць А. Ойстрах («Дзвюх муз слушкі»), аб узаемадзеянні музыкі і літаратуры ў творчасці М. Багдановіча разважае Э. Нікалаева («Музыка перш за ўсё»), творчы партрэт фотамайстра М. Жылінскага стварае Ю. Васільеў («Другое з'яўленне»), пра творчы шлях дырыжора Г. Жыхарава расказвае В. Чабан («Маэстра народнай музыкі»), непаўторны талент былога партызанскага разведчыка аналізуе В. Скідан («Малюнкі і вершы Пятра Касцюкевіча»), аспекты прафесійнага майстэрства разглядае В. Нісцюк («Дзеля станаўлення і росквіту таленту»).**

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ



Васіль Вітка з вучнямі Селішчанскай школы.

**Ганарацца случакі сваім земляком Васілём Віткам. Ён часта наведвае родныя мясціны, і кожная сустрэча з ім — вялікая для ўсіх радасць.**

**Нядаўна адбылася цёплая сустрэча паэта са сваімі землякамі, якія сабраліся ў Селішчанскім Доме культуры, каб павіншаваць яго з 75-годдзем. Духмяным караваем, сувенірамі, з любоўю зробленымі рукамі дзяцей, кветкамі сустракалі яны дарагога госця. Васіль Вітка падарыў дзецям свае кнігі, партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. У гонар госця вучні Селішчанскай школы падрыхтавалі канцэрт.**

**У гэты ж дзень адбылася сустрэча паэта і ў родных Еўлічах з настаўнікамі і вучнямі пачатковай школы.**

Тэкст і фота Т. МАЧУЙСКАЙ.

**Канферэнцыя па рамане Івана Новікава «Ачышчэнне» адбылася на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Праведзена яна рэдакцыяй часопіса «Полымя» сумесна з бібліятэкай навучальнай установы. Пра новы твор пісьменніка гаварылі загадчык аддзела прозы часопіса І. Пташнікаў, бібліятэкар Г. Філіпенка, доктар эканамічных навук С. Янчанка, студэнты.**

**Адначасова І. Пташнікаў пазнаёміў прысутных з рэдакцыйнымі планамі часопіса, у прыватнасці, аддзела, які ён узначальвае.**

**Іван Новікаў расказаў аб рабоце над раманам, адказаў на пытанні слухачоў.**

**В. СЯРОДКА.**

## З гастролямі— у Кіеў

**Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР завяршае свой сёлетні сезон. Але наперадзе, як заўсёды, — летнія гастролі. Калектыў тэатра правядзе наступны месяц у Кіеве. Мінчане пазнаёмяць гледачоў са сваім сталым рэпертуарам, а таксама з прэм'ерамі гэтага сезона: «Гуляем у прынца і жабрака» А. Журбіна і «Вольны вецер» І. Дунаеўскага. На здымках, зробленых А. Вайнштэйнам, аматары аперэты пазнаюць акцёраў, якіх добра ведаюць па спектаклях нашага Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі.**



«Мая цудоўная лэдзі»: З. Вяржбіцкая, У. Лінкевіч і заслужаны артыст БССР В. Фаменка.



Заслужаная артыстка БССР Л. Рабушка і Ю. Лапша ў балеце «Паненка і хуліган».



Народная артыстка БССР Н. Гайда і саліст Р. Харык у спектаклі «Дзяніс Давыдаў».

# ТЭАТР ПРЫ БІБЛІЯТЭЦЫ

**Споўнілася пяць гадоў дзіцячаму тэатру, які працуе пры Лясноўскай бібліятэцы, што ў Мінскім раёне. Хто ж яны, артысты гэтай культасветустановы? Юныя чытачы. Дарэчы, першыя арганізатары тэатра ўжо закончылі сярэднюю школу. Але яны і цяпер не парываюць сувязей з бібліятэкай.**

**Самадзейныя артысты ажыццявілі пастаноўкі спектакляў «Коцік, пеўнік і лісіца», «Тры мядзведзі», «Кот у ботах», «Калабок», «Малыш і Карлсан» і іншых.**

**— Падлетак павінен бачыць герояў, якім уласцівы духоўная чысціня і пачуццё грамадзянскага абавязку, аптымізм, жаданне змагацца са злом і несправядлівасцю, перамагаць цяжкасці, што ўстаюць на жыццёвым шляху чалавека. Гэтым я і кіравалася, ствараючы свой дзіцячы тэатр «Русалачка», — зазначыла загадчыца бібліятэкі Ларыса Фамінічна Уладыка.**

**І яшчэ адна цікавая форма работы з кнігай «прапісалася» ў гэтай культасветустанове — паспяхова працуе гурток юных ілюстратараў. Школьнікі робяць малюнкі да тых кніг, якія яны прачыталі. Такі занятак дапамагае юным чытачам глыбей вывучыць твор, «ужыцца» ў вобраз літаратурнага героя. Усе работы вучняў дэманструюцца на выстаўцы выяўленчага мастацтва, якая з'яўляецца пастаянна дзеючай.**

**Л. КУВАЛІН.**

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

> **Подзвіг Героя Савецкага Саюза Пятра Купрыянава жыве ў сэрцах савецкіх людзей. Яго імем названы вуліцы, школы, піянерскія дружыны. У гэтым годзе П. Купрыянаву споўнілася б 60 гадоў.**
>
> **Я напісаў дакументальную аповесць пра слаўнага сына нашага народа. Увазе чытачоў прапаную некалькі старонак з яе.**
>
> **Аўтар.**

# ВЫШЫНЯ «107,7»

Купрыянаў, Вусень і ўсе, хто знаходзіўся ў траншэі, з-за бруствера ўзіраліся ў хутар — белы дом, крыты чарапіцай, доўгі хлеў і сад. На хутары было ціха, але гэта была падманлівая цішыня: уначы разведка далажыла, што там, у бліндажах і траншэях заселі фашысты.

Ці то ад холаду, ці ад таго, што неўзабаве давядзецца ісці ў бой, Вусень сцепануўся: гэта будзе яго першы бой.

Камандзір аддаў загад, як пажартаваў:

— Ну, вочы карыя — салдаты бравыя, вочы шэрыя — салдаты смелыя, падрыхтавацца да атакі...

Сяржант Сладкоў стараўся быць вясёлым, але яго голас быў узрушаны, усхваляваны.

Купрыянаў не зрэагаваў. Хвацкасць без кемлівасці горш, чым дурасць. Трэба гада на мушку злавіць. Дабраўшыся да куста, асцярожна выглянуў з-за яго. Фашысцкі аўтаматчык быў, як на далоні. Пятрусь даў кароткую чаргу — варожая каска на хвіліну знікла, але тут жа паказалася ў іншым месцы. Купрыянаў паклаў аўтамат, левай рукою дастаў з кішэні гранату і, як толькі каска зноў паказалася, у імгненне вока вырваў засцерагальнік і шпурнуў гранату. Грымнуў глухі выбух. Пятрусь падхапіўся на ногі, нізка нагнуў галаву і, трымаючы напагатове аўтамат, пашыбаваў наперад...

У выніку бою фашысты адкаціліся на Курземскае ўзвышша.

●

Сяржант Сладкоў, вярнуўшыся са штаба, куды яго тэрмінова выклікалі, звярнуўся да байцоў:

— Атрымана надзвычай важнае, але нялёгкае заданне. Для яго выканання патрэбны добраахвотнікі.

Пятрусь Купрыянаў адказаў:

— У партызанах мне даводзілася быць і разведчыкам, і мінёрам, і дыверсантам. І тут не падвяду.

— Ну што ж. Бяру цябе з сабой,— сказаў Сладкоў.

— І я былы партызан,— сказаў Іван Ясінскі.

Да Купрыянава і Ясінскага далучыліся яшчэ два байцы — Павел Рэвуцкі і Мікалай Сасункевіч.

Аддзяленню сяржанта Сладкова было загадана — знішчыць кулямётнае гняздо ў дзоце на вышыні, якая на вайсковых картах абазначана лічбай «107,7».

Купрыянаў разам з аддзяленнем начной цемры поўз да вышыні «107,7». Здавалася, гэтаму «чарапахаваму марафону» не будзе канца, балелі локці і калені. Ды што зробіш: трэба падкрасціся так, каб ні адна фашысцкая душа не пачула.

Пятрусь успомніў сяржантаў наказ: калі з ім, Сладковым, здарыцца што-небудзь, то камандзірам аддзялення будзе ён, Пятрусь. І калі з групы застанецца толькі адзін баец, то і тады заданне павінна быць выканана.

— Вышыня «107,7», на якой замацаваліся гітлераўцы, панавала над усім Курземскім узвышшам,— успамінае кавалер двух ордэнаў Славы Іван Ясінскі.— Нам, разведгрупе, уначы ўдалося разведаць самыя галоўныя агнявыя варожыя гнёзды і своечасова перадаць каштоўныя звесткі ў штаб палка...

На світанку з зараснікаў Дзелды батальён капітана Бутурына выступіў на штурм вышыні «107,7», а неўзабаве, у самы разгар бою, з падножжа Курземскай гары, з варожага дзота, што быў па-майстэрску замаскіраваны каменнем і розным друзам, загрукатаў буйнакаліберны кулямёт, пра існаванне якога мы, разведгрупа, і не падазравалі.

Батальён, не спыняючы шквальнага аўтаматнага агню, залёг. А мы пад прыкрыццём гэтага агню па вузкім распадку падаліся бліжэй да праклятага дзота і, апынуўшыся крокаў за трыццаць ад яго, закідалі амбразуру гранатамі. Кулямёт захлінуўся, але, калі батальён падхапіўся на ногі, з дзота ізноў сыпануў смертаносны град.

Нічога не маглі зрабіць: амбразура была вельмі вузкая, нашы гранаты разрываліся, але не прычынялі шкоды ні кулямёту, ні кулямётчыку. І раптам Купрыянаў, што ляжаў на зямлі побач са мной, падхапіўся на ногі, маланкай кінуўся да дзота...

У Купрыянава па спіне прабег халадок, як і заўжды перад самым пачаткам бою. Але хлопец не хваляваўся. Ён зірнуў на аўтаматную мушку — ці не збілася, прыкінуў, ці ўсё пры ім. Усё было на месцы: і патроны, і гранаты, і бінт. Надзеў на галаву каску,— куля сцеражэ, а каска беражэ.

Сладкоў павярнуў галаву ў бок лесу,— да яго было з паўкіламетра, паглядзеў на наручны гадзіннік і з ноткамі гумару вымавіў:

— Пеўню сказалі: «Заспявай». Ён адказаў: «Прыйдзе пара».

Купрыянаў заўважыў, як у Вусеня дрыжэлі пальцы, калі ён зашпільваў раменьчык ад каскі. Ціха, каб ніхто не пачуў, Пятрусь строга шыкнуў на земляка:

— Не калаціся ты, як асінавы ліст. Баязліўца і маці ў хату не пускае!

З правага боку, з дальняга краю ўзлеску пачуліся гарматныя стрэлы — там усчаўся бой. У паветры басавіта загулі буйнакаліберныя снарады, і ў гэты ж момант на хутары выбухнула раз, другі, трэці. Чорнымі веерамі ўзлятала ў паветра зямля. На белым доме разляцеўся на кавалкі дах, а над хлявом мільганула полымя.

Сяржант Сладкоў крыкнуў:

— Аддзяленне, уперад!

Аддзяленне рушыла ў атаку. Салдаты беглі да хутара. Нечакана з хутарскіх руін, якраз адтуль, куды поўз Купрыянаў, застракатаў варожы аўтамат.

Купрыянаў атрымаў заданне знішчыць варожага аўтаматчыка. Пятрусь узяў правей і папоўз. Сладкоў крыкнуў:

— Чаго паўзеш? Чаму не страляеш?



Выпраўляла маці сыноў на фронт...

Гэтая скульптурная група пастаўлена ў Жодзіне — радзіме Героя Савецкага Саюза Пятра Купрыянава. Фота Ул. КРУКА.

Угнуўшы галаву, часта дыхаючы, ён спыніўся каля вялікага каменя, прываленага да рубленай сцяны дзота. Трымаючы ў адной руцэ аўтамат, а ў другой — апошнюю гранату, Купрыянаў прыслухаўся да грукату дзотнага кулямёта. Потым наблізіўся да самага вугла дзота. Яшчэ імгненне — і, трымаючыся адной рукой за вуглавы выступ, Купрыянаў другой рукой кінуў гранату ў амбразуру.

Грымнуў выбух — фашысцкі кулямёт змоўк.

Праз гул бою па вышыні пракацілася шматгалосае «Ура!». Байцы рушылі на штурм вышыні «107,7».

Пятрусь падбег да каржакаватага дуба, які стаяў каля дзота, падняў над галавой аўтамат, падаючы байцам знак: дзоту капут. І тут Петруся аж скаланула — зноў запрацаваў дзотны кулямёт, лівень смертаносных куль прымусіў савецкіх байцоў легчы на дол.

Задача, пастаўленая батальёну, зрывалася. Што рабіць? Вагаўся ён нядоўга. Пятрусь кінуўся да дзота і грудзьмі закрыў амбразуру.

Батальён падняўся ў атаку.

**М. КОРЗУН.**

**ЭТЫКА МАРАЛЬ ПРАВА**

# РАЎНА-ДУШША

Я хачу расказаць пра помнік. Помнік, які быў пастаўлены маім землякам, што загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гавару ў мінулым часе «быў», бо помніка, па сутнасці, ужо няма. Вядома, нішто на свеце не бывае вечным, і бывае, што бязлітасныя гады, вецер, дождж і снег могуць разбурыць і бетонна-цагляны маналіт помніка. Але ў дадзеным выпадку прырода ні пры чым, помнік разбурылі самі людзі, фактычна дзеці тых, у чый гонар ён пастаўлены. І гэта асабліва горка, крыўдна ўсведамляць.

Ініцыятыва яго стварэння належала былому загадчыку клуба Міхаілу Іванавічу Качанаву. Які няўрымслівы гэта быў чалавек! Нешта я не прыпамінаю нікога з нашых сённяшніх адукаваных культасветнікаў, хто з такою апантанасцю, самаахвярнасцю браўся б за справу. Сам гарманіст, ён арганізоўваў канцэрты, конкурсы, ставіў спектаклі — на невялічкай сцэне драўлянага клуба ажывалі каларытныя малюнкі сялянскай працы. Дзівам было для ўсяго калгаса, калі на рэспубліканскім конкурсе ўдзельніцы клубнай самадзейнасці, у тым ліку і мая маці, заваявалі першы прыз — тэлевізар! — за, здавалася б, просценькую пастаноўку: сядзяць на сцэне вясковыя жанчыны-сялянкі і пад маркотнае журчанне калаўрота вядуць тужлівую песню.

**Ой, пайду я па-над лугам,**
**Там мой мілы арэ плугам.**
**Сваё поле, свая ніва,**
**Паганяе чужа міла.**
**Свая стаіць за вазамі,**
**Абліваецца слязамі.**

Як жа прыдаўся нам, хлапчукам, той іх прыз — тэлевізар — цуд на той час вялікі! Я і цяпер бачу тое блакітнае невялічкае вока «Волхава».

Гэта ён, Міхаіл Іванавіч Качанаў, разам з настаўнікам Якавам Пятровічам Фурсіным абышоў некалькі разоў са сшыткам у руках усе двары калгаснікаў і перапісаў тых,

**ПОШУКІ ЗНАХОДКІ**

# Сто пытанняў Маякоўскаму

**Уладзімір Уладзіміравіч Маякоўскі не раз гаварыў: «Мне без голасу нельга. Мне без голасу і не жыць. Я павінен сам дамовіцца з чытачамі... Адзін мой слухач — гэта дзесяць чытачоў у далейшым».**

**Паэт пісаў вершы, каб яны гучалі. Гучалі перш за ўсё ў аўтарскім выкананні. Ён разумеў, што толькі так сэнс твора дойдзе да сэрца слухача. Гэтай мэце служылі, як успамінаюць сучаснікі, і сіла яго густога, нізкага голасу, плаўная і ў той жа час ударная рытмічнасць яго чытання, і надзвычай выразная артыкуляцыя.**

**Чытанне для яго было завяршальным этапам творчага працэсу. Вось чаму паэт часта выступаў у рабочых і маладзёжных клубах, ездзіў з вершамі і лекцыямі па краіне.**

**У аўтабіяграфіі «Я сам» Маякоўскі пісаў: «...працягваю перапыненую традыцыю трубадураў і менестрэляў. Езджу па гарадах і чытаю».**

**У 1927 годзе паэт правёў у паездках 181 дзень, наведаў 40 гарадоў, зрабіў 100 выступленняў.**

**26 сакавіка гэтага ж года Маякоўскі прыязджаў у Віцебск, а 27—29 сакавіка ён знаходзіўся ў Мінску. У гэтых гарадах паэт выступіў з дакладам «Твар левай літаратуры». У сталіцы рэспублікі адбылося чатыры выступленні.**

**На кожным з вечароў Маякоўскі чытаў вершы, адказваў на шматлікія пытанні. У аўтабіяграфіі ён пісаў: «Сабраў 20000 запісак, думаю пра кнігу «Універсальны адказ» (запісачнікам). Я ведаю, пра што думае чытацкая маса».**

**На жаль, намечанае не ажыццявілася.**

**Запіскі, якія паступалі на вечарах у Віцебску і Мінску, знаходзяцца цяпер у Дзяржаўным музеі Маякоўскага ў Маскве. Загадчыца рукапісна-дакументальнага фонду музея Аіда Пятроўна Сярдзітава прынесла некалькі канвертаў з запіскамі.**

**Бяру адзін з іх і асцярожна высыпаю з яго пажоўклыя ад часу запіскі. Усяго іх 321. Адны напісаны спехам алоўкам, іншыя — чарнілам, відаць, рыхтаваліся загадзя. Большасць запісак без подпісу, некаторыя змяшчаюць не адно пытанне, а некалькі.**

**У дадзенай публікацыі прыводзіцца каля ста запісак-пытанняў Маякоўскаму. Стыль аўтараў захоўваецца. Чаму менавіта сто, а не 200? Па-першае, многія запіскі паўтараюцца, па-другое, сам паэт любіў гэты лік, у яго творах ён неаднаразова сустракаецца.**

**Помніце:**

**...я подыму,**
**как большевистский партбилет,**
**все сто томов**
**моих партийных книжек.**

**Задаючы пытанні, слухачы хацелі зразумець светапогляд Маякоўскага, пранікнуць у творчую лабараторыю паэта, даведацца аб яго думках пра тыя або іншыя накірункі літаратурнага працэсу.**

«З якога года пачалася ваша літаратурная дзейнасць?»

«Як вы пішаце: у час натхнення ці калі захочаце?»

«Як адгукаўся таварыш Ленін на Вашу творчасць?»

